## АФІЦЫЙНА

### САВЕТУ КАЛГАСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПАВАЖАНЫЯ ПРАЦАЎНІКІ СЯЛА!

Дазвольце павіншаваць вас са знамянальнай датай — 25-годдзем Беларускага Савета калгасаў.

Чвэрцьвекавы шлях, пройдзены арганізацыяй, што аб'ядноўвае людзей, праца якіх аддадзена зямлі, гаворыць шмат аб чым. Беларускі Савет калгасаў усе гэтыя гады ўпэўнена працягвае праводзіць палітыку, накіраваную на развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, стварэнне спрыяльных умоў для работы аграпрамысловага комплексу рэспублікі, абарону прынцыпаў калгаснай дэмакратыі.

Зроблена нямала. Але спыняцца на дасягнутым не ў правілах лепшых прадстаўнікоў аграрнага руху — старшынь перадавых гаспадарак, вопытных спецыялістаў, працаўнікоў палёў, фермаў і іншых галін аграпрамысловага комплексу. Наш аграпрамысловы комплекс — гэта тое асноўнае звяно, якое можа і здольнае вывесці ўсю эканоміку краіны з крызісу. Клопат аб сяле з боку Беларускага Савета калгасаў становіцца важкім укладам у пераадоленне многіх праблем сельскагаспадарчай вытворчасці.

Жадаю вам, дарагія сябры, далейшых поспехаў у вашай высакароднай працы!

Моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту ўсім працаўнікам аграпрамысловага комплексу рэспублікі!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ.**

г. Мінск,
17 ліпеня 1996 года.

### УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 254

**Аб устанаўленні свята — Дня металурга**

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень металурга і штогод адзначаць яго ў трэцюю нядзелю ліпеня.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

17 ліпеня 1996 г.
г. Мінск.

### АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА ЧЭРВЕНЬ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў чэрвені 1996 года ў параўнанні з маем 1996 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 102,3 працэнта. У параўнанні са снежнем 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 117 працэнтаў.

**Мінстат Рэспублікі Беларусь.**

### АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА ЧЭРВЕНЬ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў чэрвені 1996 года ў параўнанні з маем 1996 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 103,3 працэнта, у параўнанні са снежнем 1994 года — 236,3 працэнта, са снежнем 1995 года — 110,2 працэнта.

**Мінстат Рэспублікі Беларусь.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...АДРАМАНТАВАЦЬ УЛАСНЫ ТРАКТАР

**Дзякуй Богу, мінулі тыя часы, калі просты селянін мог толькі марыць аб трактары ці грузавіку на ўласным падворку. Хто ведае жыццё вёскі не па кніжках і фільмах, на ўласнай скуры зведаў неабходнасць мець у гаспадарцы хаця б нейкую тэхніку. Куды ні кінься — усюды яна патрэбная. І дровы з лесу прывезці, і сена назапасіць, і бульбу з капустай сабе і суседзям з поля даставіць — ды мала яшчэ чаго! Калгаснага трактарыста і брыгадзіра не заўсёды дапросішся, а ўласны «жалезны конік» заўсёды пад бокам. Адно дрэнна — не кожнаму новая тэхніка па кішэні. Скажыце, адкуль у простага вяскоўца 12,5 тысячы долараў ці таго больш — 14 тысяч «баксаў» — менавіта столькі, як паведамілі ў аддзеле збыту Мінскага трактарнага завода, тут каштуюць трактары МТЗ-80 і МТЗ-82.**

Пра новы грузавік таксама марыць не дазваляюць цэны. Напрыклад, вытворча-гандлёвае акцыянернае таварыства «Белгазаўтасервіс» прапануе аўтамабілі аднайменнай маркі па наступных расцэнках: ГАЗ-270524 (трохмесны цэльнаметалічны фургон) — 155 млн. рублёў, ГАЗ-3309 (бартавы) — 180 млн., ГАЗ-33023 «Фермер» — 155 млн., ГАЗ-270544 (грузапасажырскі 7-месны фургон) — 160 млн. рублёў. Зразумела, што набыць па такой цане грузавік ці трактар не па сілах не тое каб уласніку, але і многім гаспадаркам. Таму звычайна бяруць патрыманую, спісаную з прадпрыемстваў, гаспадарак, вайсковых часцей тэхніку. Дакладную цану тут назваць складана, бо ўсё залежыць ад стану машыны, года выпуску, а нярэдка — і ад адносінаў з кіраўніцтвам, напрыклад, гаспадаркі.

Кажуць, што стары конь баразны не сапсуе, але, па праўдзе, такая тэхніка час ад часу патрабуе рамонту, нярэдка капітальнага. Зразумела, многае можа зрабіць самастойна наш здатны на ўсё ў гэтых адносінах народ: і дэталь пэўную, і неабходнае пераабсталяванне. І ўсё ж нярэдка даводзіцца шукаць сёе-тое ў гандлі. Спецыялісты раяць у такіх выпадках найперш звяртацца ў мясцовую райсельгастэхніку: звычайна ў іх павінен быць набор найбольш «хадавых» запчастак. Калі там не змогуць задаволіць вашы патрэбы, дапаможа аб'яднанне «Белаграснаб», што размешчана ў Мінску. Гідрацыліндры да сельскагаспадарчых машын розных відаў тут каштуюць ад 37000 тысяч да 1 млн. 200 тысяч рублёў, падшыпнікі да прычэпаў — 100.000 за адзін, шыны для ГАЗ-53 — 180 долараў па курсу Нацбанка (для ЗІЛ-130 — 208 долараў, МАЗ — 334 долары). Дапамогуць тут вам і з больш складаным рамонтам. Так, могуць прапанаваць за 28 млн. рублёў рухавік да ГАЗ-53, рысоры да «Волгі» — 400 тысяч за адну. У асартыменце паліўныя бензінавыя помпы (для «Жыгулёў» — 240 тысяч рублёў), свечы запальвання (для ГАЗ-53, ЗІЛ-130 — 11 тысяч, для «Жыгулёў», «Масквічоў» — 11.500 рублёў), шмат чаго іншага. Словам, катайцеся і не ламайцеся.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*...ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ЦІ ЗДОЛЕЮЦЬ БЕЛАРУСЫ ПЕРАХВАРЭЦЬ «АФГАНСКІМ СІНДРОМАМ»?

**Амерыканскія медыкі, праводзячы даследаванні сярод людзей, якія прайшлі праз ваенныя выпрабаванні ў В'етнаме, нечакана высветлілі, што псіхічны крызіс наступае ў былых салдат дзесьці праз 10—15 гадоў пасля апошняга стрэлу. Гэта і атрымала назву «ваенны сіндром». У нашай краіне яшчэ і «афганскі». На афганскіх палях застаўся ляжаць 771 беларус. Тыя, што вярнуліся адтуль (іх больш за 30 тысяч), павінны былі неяк прыстасавацца ў мірным жыцці.**

Зараз вайскоўцы, што вярнуліся з Афганістана, аб'яднаны ў Беларускім саюзе ветэранаў вайны ў Афганістане (БСВВА).

— Мы не прыхільнікі выбівання грошай, — адзначыў Станіслаў Гаварушкін, старшыня БСВВА, — таму што добра ведаем стан нашай эканомікі. На пытанне карэспандэнта «Звязды» наконт сацыяльнай абароны воінаў-інтэрнацыяналістаў (акрамя таго, што памерла іх ужо на беларускай зямлі 289 чалавек, інвалідамі сталі 757, а былі паранены 1076 чалавек), Станіслаў Гаварушкін адзначыў, што пэўныя меры праводзяцца. Так, напрыклад, створана праграма медыка-сацыяльнай абароны, у адпаведнасці з якой пабудаваны Рэспубліканскі цэнтр рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў у Віцебску.

Засталіся афганцы ў ліку тых пяці катэгорый грамадзян нашай рэспублікі, якія маюць права на першачарговае атрыманне бясплатнага жылля. Ёсць яшчэ льготы на набыццё неабходных лекаў. У кіраўніцтве БСВВА, праўда, лічаць мэтазгодным атрымліваць гэтыя стаўкі ў грашовым эквіваленце, як робяць у Амерыцы, дзе на год выдзяляецца пэўная субсідыя.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ГУЛЬНЯ Ў СМЕРЦЬ

Рэдакцыі «Аргументов и фактов» стала вядома імя супрацоўніка МЗС, які працаваў на англійскую разведку. Ім аказаўся аўтар дэтэктыўных раманаў «Гульня ў смерць», «У абдымках павука», «Ракавая жанчына», які працаваў пад імем Платон Обухаў. За гэтым псеўданімам скрываўся другі сакратар Дэпартамента Паўночнай Амерыкі расійскага Міністэрства замежных спраў.

## МАКУЛАТУРА ПАТАННЕЛА

**Папулярны лозунг «эканоміка павінна быць эканомнай», здаецца, застаўся ў далёкім мінулым. Як стала вядома «Звяздзе», з 8 ліпеня фірма «Мінскутаррэсурсы» на 100 рублёў за кілаграм знізіла расцэнкі на прыём ад насельніцтва і арганізацый макулатуры. Такім чынам, зараз за тону гэтай сыравіны можна атрымаць усяго 400 тысяч рублёў.**

У адной з нарыхтоўчых кантор сталіцы нашаму карэспандэнту патлумачылі, што крок гэты вымушаны. Прычыны трэба шукаць, па-першае, у недахопе сродкаў на разлікі за макулатуру і, па-другое, у не надта вялікім попыце на яе з боку перапрацоўшчыкаў. Словам, сітуацыя звычайная. Можна не сумнявацца, дарэчы, што цяпер колькасць жадаючых развітацца з непатрэбнай паперай зменшыцца, але разам з тым у гэтых варунках само сабой паўстае (асабліва, калі узгадаць практыку Захаду) зусім нерытарычнае пытанне: няўжо мы сапраўды такія багатыя?

Між іншым, цікава, што расцэнкі нарыхтоўшчыкаў на іншыя віды другаснай сыравіны не змяніліся. Па-ранейшаму за 1 кг здадзенай гумы вам прапануюць 100 рублёў, за поліэтылен — 200, за косць 300 і за кілаграм ануч — 600 рублёў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## КУДЫ ПАДЗЕЦЬ НЕЛЕГАЛЬНУЮ ГАРЭЛКУ І ТЫТУНЬ?

**Загадам Міністэрства гандлю зацверджаны парадак продажу наяўных на 1 жніўня 1996 года рэштак алкагольных і тытунёвых вырабаў без спецыяльных знакаў, якія б пацвярджалі легальнасць іх вытворчасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.**

У прыватнасці, усе суб'екты гаспадарання незалежна ад формы ўласнасці (юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы), якія ажыццяўляюць ва ўстаноўленым парадку аптовую і рознічную рэалізацыю (уключаючы грамадскае харчаванне) алкагольных і тытунёвых вырабаў айчыннай вытворчасці, а таксама іх захоўванне, павінны па стану на 1 жніўня правесці інвентарызацыю.

Па яе выніках звесткі ў 5-дзённы тэрмін накіроўваюцца ў адпаведную дзяржаўную падатковую інспекцыю. Суб'екты гаспадарання, што атрымалі ліцэнзію на продаж алкагольных і тытунёвых вырабаў, маюць права прадаваць рэшткі тавараў, якія ўтварыліся ў іх па стану на 1 жніўня, а таксама атрыманыя з аптовых прадпрыемстваў, іншых месцаў захоўвання (зноў жа з рэштkaў на 1 жніўня) да 1 студзеня 1997 года ў тых жа гандлёвых аб'ектах, дзе яны былі выяўлены.

Гэтыя вырабы павінны прадавацца ў спецыяльных аддзелах, грашовыя сродкі таксама павінны прымацца на асобны касавы апарат або асобны лічыльнік касавага апарата.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# ТАМ, ДЗЕ НЕ СПАЛОХАЛІСЯ ШОКАВАЙ ТЭРАПІІ, — «ЭКАНОМІКА МЯНЯЕЦЦА Ў СТАНОЎЧЫ БОК»...

**Такая думка прагучала падчас «круглага стала» на тэму «Рынак працы ў краінах пераходнай эканомікі», які быў праведзены ў Нацыянальным прэс-цэнтры і ў якім прынялі ўдзел глава Сусветнага банка ў Беларусі Крыстофер Уілабі, міністр працы А. Сасноў, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў У. Ганчарык, кіраўнік Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Г. Быкаў, віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Ю. Весялоў.**

Вядома, заяўленая тэма размовы была цалкам скіравана на адпаведную сітуацыю ў Беларусі, пры гэтым яе змест быў канкрэтызаваны на пытаннях зарплаты, беднасці, беспрацоўя. Тут жа трэба дапоўніць: Сусветны банк адначасова прэзентаваў сваю справаздачу аб сусветным развіцці ў 1995 годзе, у якой значнае месца ўдзелена менавіта краінам з пераходнай эканомікай (з асобнымі даследаваннямі гэтай справаздачы або, па словах А. Саснова, кнігі, якую трэба прадаваць у магазінах, газета ў далейшым пазнаёміць).

К. Уілабі ў сваім выступленні паведаміў: рэальная зарплата ў Беларусі ў мінулым годзе адносна 1990 года склала каля 43 працэнтаў, беларусаў напаткалі праблемы беднасці і беспрацоўя.

Аднак, на думку Уілабі, вельмі цяжка атрымаць дакладныя даныя адносна тых, хто пражывае за рысай беднасці. Афіцыйныя падлікі ўрада заснаваны на адвольна вызначаных 60 працэнтах ад мінімальнай спажывецкай карзіны. У даследаваннях Сусветнага банка прымяняюцца больш абгрунтаваныя падыходы. У прыватнасці, яго даныя сведчаць, што ў мінулым годзе 15—20 працэнтаў хатніх гаспадарак з'яўляліся абсалютна беднымі. Пры гэтым, падкрэсліў К. Уілабі, па-першае, хоць у 1995 годзе паміж зарплатай і рэсурсам прадукцыі і была меншая неадпаведнасць, чым раней, краіна па-ранейшаму жыве не па сродках, што паказвае дэфіцыт плацежнага балансу, а па-другое, адсутнічаюць прыкметы пераадолення негатыўных тэндэнцый — па зарплаце, беспрацоўю і беднасці.

Тым не менш, па словах К. Уілабі, у той жа справаздачы даецца аптымістычная ацэнка патэнцыялу былых краін сацлагера, у якіх пры адпаведнай эканамічнай палітыцы можна забяспечыць устойлівы штогадовы 3-працэнтны рост рэальнай заработнай платы.

Якія крокі належыць зрабіць?

Сярод іх названы падтрымка рэальнага абменнага курсу, хуткая прыватызацыя і акцыяніраванне, стымуляванне стварэння прыватных прадпрыемстваў, рацыянальнае выкарыстанне інвестыцый, больш эфектыўная мэтанакіраваная падтрымка тых, хто ў гэтым мае патрэбу, павышэнне дзейснасці службаў занятасці...

Чым могуць дапамагчы рабочыя рухі, г. зн. прафсаюзы?

Як заўважыў К. Уілабі, эканамічныя пераўтварэнні маюць большае значэнне менавіта для рабочых, якія больш уразлівыя, бо, напрыклад, работнікі творчых прафесій так ці інакш знойдуць работу... Адпаведна, трэба мець на ўвазе, што вяртанне да каманднай эканомікі — немагчымае. Трэба таксама дапамагаць людзям пераадольваць не лепшыя элементы спадчыны — недавер да прадпрымальніцтва і сацыяльную зайздрасць. Варта пераконваць, што нельга чакаць ад палітычнага кіраўніцтва вырашэння праблем асобных прадпрыемстваў...

— Там, дзе не пабаяліся паглядзець праўдзе ў вочы і прымянілі метады рэфарміравання, якія пазней назвалі шокавай тэрапіяй, эканоміка мяняецца ў станоўчы бок і хутчэй, і па ўсяму фронту, — гэтыя словы прагучалі з вуснаў А. Саснова, які рэзка выказаўся адносна нашага так званага мяккага варыянту рэформаў. Па словах А. Саснова, у тых, хто пайшоў на рэформы «рэзка і адразу», гэты боль ад шоку хутка праходзіць, грамадства пачынае адаптавацца да новых умоў, стварае новыя рабочыя месцы... У нас не дапусцілі рэзкага ўсплеску афіцыйна фіксуемага беспрацоўя і атрымалі рэзкі рост скрытнага, на прадпрыемствах. Па ацэнцы А. Саснова, скрытнае беспрацоўе складае 16—17 працэнтаў, а ўсяго, разам з афіцыйным, мы маем каля 20 працэнтаў... Такім аказаўся наш мяккі варыянт...

Прычым падобным чынам мы губім дзяржаўныя прадпрыемствы, не даём ім выйсці з крызісу, пазбаўляем перспектывы. Праблема ўскладняецца тым, што прадпрыемствы страцілі свой тэхнічны ўзровень, асноўныя фонды старэюць, няма інвестыцый... Задача ў краіне стаіць тая ж, што і 5 гадоў назад: лібералізацыя эканомікі, стварэнне спрыяльных умоў для развіцця малога бізнесу, адпаведных умоў для замежных інвестыцый... А. Сасноў прывёў у прыклад Літву і Польшчу, у якіх разам з эканамічнымі пераўтварэннямі пачалі паспяхова вырашацца і пытанні сацыяльнага плана.

Стаўку на тое, каб захаваць працоўныя калектывы любой цаной, назваў эканамічна неапраўданай і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў У. Ганчарык. Імкненне да больш жорсткага дзяржаўнага рэгулявання адбіваецца не толькі на недзяржаўных прадпрыемствах, але і дзяржаўных. Трэба мяняць курс. Асноўнай мерай павінна быць наступная: даць магчымасць працаваць і зарабляць... Як вынікае са сказанага У. Ганчарыкам, сацыяльнае партнёрства, ад якога не адмаўляюцца прафсаюзы, павінна грунтавацца на цвёрдай эканамічнай глебе.

Адносна рашучага пералому ў эканамічнай палітыцы дзяржавы, «узмацнення» ў эканоміцы нябачнай рыначнай рукі і адмовы ад гэткай жывучай ідэі татальнага кантролю гаварылі і іншыя ўдзельнікі «круглага стала». Прычым менавіта з карэнным паваротам у эканоміцы, у эканамічнай палітыцы ўвязваліся і надзвычай вострыя цяпер сацыяльныя пытанні. Прагучала пытанне адносна таго, ці будзе, урэшце, у нас шокавая тэрапія?.. Можна меркаваць, што ў нас гэты шок цягнецца няспынна — ды няма самой тэрапіі... Падчас «круглага стала» таксама гучала: дзе ж адпаведныя праграмы, ці не дрэнныя яны? На гэта адказаў У. Ганчарык з надзвычайнай праматой: дрэнныя не праграмы, а іх выкананне... Ён жа, дарэчы, назваў эканамічным абсурдам работу на склад.

Варта падагульніць: відавочнае тое вельмі хісткае незайздроснае эканамічнае становішча, да якога мы прыйшлі. Відавочнай становіцца і асноўная прычына, якая прывяла да гэтага. Гэта нашы славутыя памяркоўнасць, асцярожнасць, якія ў рэшце рэшт абярнуліся, па сутнасці, імітацыяй рэформаў, нашымі паўрыначнымі крокамі. Больш таго, апошнім часам зроблены яўны адкат назад ад зрухаў у напрамку лібералізацыі эканомікі, зноў робіцца ўхіл на дзяржаўнае рэгуляванне, на сілу камандных метадаў і прамога кіравання... Бесперспектыўнасць такіх падыходаў ужо даказана ранейшым развіццём. Застаецца спадзявацца, што не стане марнай цяперашняя ўзмоцненая работа, якая ідзе ва ўладных кабінетах, над адпаведнымі праграмамі, над выпрацоўкай таго ж курсу.

... Самае дзіўнае, што менавіта ў Беларусі, якая была самай узорнай рэспублікай у былым СССР, цяпер самыя вялікія праблемы... Няма гэтаму ніякага тлумачэння, няма прычын, няма апраўдання, заўважыў падчас гутаркі К. Уілабі...

Можа, і не самыя вялікія праблемы, тым не менш, апраўдання, сапраўды, няма.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**



# І БУДЗЕ ЖЫЦЦЁ ПАКАРАННЕМ... ЦІ ПАКАЯННЕМ?..

**Ноччу нечакана і ўпершыню прыснілася, што я еду ў Парыж. З жартам высвятлялі з калегамі, да чаго б гэта. Версій было многа. Не спраўдзілася ні адна — праз некалькі гадзін, таксама нечакана і ўпершыню, я ехала ў турму, да чалавека, які прыгавораны да расстрэлу. За забойства. Перад гэтым была ў рэдакцыі ягоная маці — худзенькая, сівая, з бясконцымі ручаямі ціхіх слёз: «Мой сын — не забойца». Падпішыце, як журналіст, паперу, каб яго не расстралялі». Яна пабывала на многіх паверхах нашага Дома друку. Некаторыя калегі падпісаліся, бо цяжка не паспачуваць чалавеку ў поўным адчаі: забіваюць дзіця! Тым болей, што подпісы ні да чаго не абавязвалі — якая ў іх сіла?**

**Подпісу я не паставіла, а ўзяла білет да Наваполацка. Там, у турме, і «сядзеў» Ігар Капыцін, 25 гадоў, прыгавораны Віцебскім абласным судом да вышэйшай меры.**

УСЮ ДОЎГУЮ ДАРОГУ суправаджаў занудлівы халодны дождж. Толькі ў Лепелі я выйшла з аўтобуса, каб сагрэцца якой гарбатай.

Першай, каго ўбачыла на мокрай прывакзальнай плошчы, была высокая худая бабуля з касою на плячы. А ў такой камандзіроўцы, вядома, з якімі думкамі едзеш. Аж здрыганулася: ці не прымроілася праз дождж?

Бабуля была хоць ушчэнт мокрая, але з добрым спакойным тварам. Яна траву ўздоўж палатна касіла. Ішла, відаць, дадому на абед.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

*«Мой сын не мог забіць чалавека. Я іх дваіх без бацькі расціла — уласны лёс неяк не заладзіўся, з мужам развяліся. Заўсёды вельмі баялася, каб іх ніхто не пакрыўдзіў — мужчыны ў доме няма, ніхто не заступіцца. Усё паўтарала: вы здачы нікому не давайце, вы мне скажыце, я разбяруся. Яны ніколі ні з кім не біліся — а тут забойства. Ігар нават не крычаў на мяне ніколі. Мы бедна жылі — я акушэркай увесь час рабіла, але ніколі сын нічога не прасіў — што ёсць, тое і добра. Аднойчы толькі — 10 гадоў назад, дзень нараджэння ў яго быў — у двары сабак прадавалі. Першы і апошні раз папрасіў: сабаку. Якраз бабуля ў гасцях была — 25 рублёў знайшлося.*

*Мы вельмі дружна з ім жылі. Першыя кветкі гарадскія з'явяцца, падбел, ён мне нясе букецік — на халадзільніку ставіла. Я вельмі хворая, часта сардэчныя прыступы бываюць — Ігар заўсёды сядзеў побач, за руку трымаўся, супакойваў. Тым і жыла. Мне суседзі ўсё казалі: каб усе дзяўчынкі былі такімі, як вашы хлопцы, то гора б ніякага не было...»*

Гора прыйшло проста і жудасна. Чацвёра, у тым ліку і Ігар Капыцін, ішлі красці. Амаль усе — без работы (некалі працавалі разам). Ігараў аднакласнік расказаў неяк пра бацькоў сваёй былой жонкі — багата жывуць, ёсць замежная апаратура, долары. Вырашылі кватэру абакрасці. Некалькі разоў званілі туды — трубку брала жанчына, значыць, там нехта быў. Пілі, зноў званілі. Ці то чалавек выйшаў, ці то тэлефон адключылі. Пайшлі. Двое засталіся на вуліцы, а Капыцін і Глазуноў пачалі адчыняць дзверы. Нечакана выйшла жанчына. Глазуноў у спецвойсках служыў, мог пры выпадку «адключыць» чалавека. Але жанчына моцная трапілася — адключацца не захацела, яна жыць хацела. У зладзеяў быў з сабою нож. Яго выкарысталі... 14 ран налічылі следчыя, калі прыйшлі на месца трагедыі. Адна з іх аказалася смяротнай — была перарэзана артэрыя на шыі.

Доўга вагалася, перш чым сустрэцца з мужам забітай — зноў напамінаць пра перажыты жах, вярэдзіць страшны боль...

Валянцін Мікалаевіч Собаль — вельмі паважаны на Віцебшчыне чалавек, кваліфікаваны хірург, кандыдат навук. У складаных сітуацыях самалётам ляціць у аддаленыя райцэнтры, каб ратаваць чалавеку жыццё — такіх спецыялістаў у вобласці нямнога. У той раз трывожны выклік прагучаў побач... Дапамога не спатрэбілася.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

«Вы разумееце, што такое ўскрытая артэрыя? Кроў фантанам вырываецца, з шумам. У кватэры ўсё было заліта крывёю. Страшна ўявіць такое з блізкім чалавекам. Яна, відаць, уцякала ад іх — ручка дзвярэй у спальню зламалася, прасіла не забіваць...

Мы 25 гадоў пражылі разам, якраз збіраліся срэбнае вяселле адзначыць. Таіса Пятроўна жыццё пражыла няпростае. Сама з беднай сям'і: маці — прыбіральшчыца, бацька — машыніст паравоза. Санітаркай працавала, вучылася ў інстытуце. Было — і на заводзе працавала, бо грошай не хапала. Асноўная ж яе праца — выхавальніца ў Доме дзіцяці. Там дзеткі кінутыя, ад 3 месяцаў да 4 гадоў. Усіх заўсёды сустракала ўсмешкай — любіла людзей, дапамагала ім.

*Мы нікому не перашкаджалі жыць. Адкуль, чаму, за што? Жыццё раптам перавярнулася. Ведаеце, іх жа толькі праз паўгода ўзялі. Што наша сям'я за гэты час вынесла — хто з іх задумаўся? Пакуль не адшукалі злачынцаў, падазрэнні падалі на каго заўгодна. Мяне таксама дапытвалі. Уяўляеце — тут такая трагедыя, што розум губляеш, а побач — падазрэнні...*

*Калі Таісу хавалі, паўгорада прыйшло на пахаванне. Людзі пісалі пісьмы, падтрымлівалі, патрабавалі суровай кары забойцам. Чаму знаходзяцца тыя, хто хоча перашкодзіць правасуддзю, абараніць злачынцаў? Чым кіруюцца заступнікі? Выдатнымі характарыстыкамі? Дык гэта даўно было, чалавек мяняецца. Маладым узростам? Правільна, ёсць час, каб адседзець у турме і зноў рабіць зло. Адзін з асуджаных праз год выходзіць, выйдуць і астатнія...»*

Я працягваю ў думках: дваім дарослым дзецям Таісы Пятроўны, таксама медыкам, ніхто не верне маці. Людзі аказаліся ў страшнай бядзе без усякай віны, без самага малога намёку лёсу на непапраўнае. Як дзецям глядзець на страшныя здымкі знявечанай, акрываўленай маці, ад якіх у мяне, чужога чалавека, сціскаецца горла?

Хлопчыкі ішлі красці...

Ігаравай бабулі, Марыі Сілаўне Петрусёвай, пайшоў дзевяты дзесятак. Жыве ў Оршы, хаця цяпер часта прыязджае ў Віцебск: у Соф'і, дачкі, ўсё часцей здараюцца прыступы, баіцца пакідаць адну. Вось і ў той дзень яна сядзела ў сціплай двухпакаёўцы Капыціных, малілася. Што прасіла ва Усявышняга — вядома: каб пашкадаваў унука.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

*«Усіх дзяцей у мяне пяцёра. Адна гадавала, муж на фронце загінуў. Тры гады пасля вайны ў акопе жылі, потым пачалі хатку будаваць — па бярвенцу, адна, некалькі гадоў ставілі. Соня замуж позна пайшла, на 29-м годзе — ціхая была. Двое хлопчыкаў знайшлося — дужа харошыя дзеці. Заўсёды чыстыя, дагледжаныя, як лялечкі. Мне са сваімі дзецьмі куды больш клопату было. Бывала, старэйшы дома не начуе — бегаю па сябрах, крычу — ці не бачылі Мішку? А гэтыя вечарамі нікуды не хадзілі. Ягорка (я так Ігара заву) вельмі культурны быў, ніколі ад яго мацюка не чула. Я дачцы заўсёды казала: ты, Соня, маліся Богу, у цябе дзеці харошыя.*

*А тут такое з Ігарам... Я на спатканне да яго ездзіла. Як ты мог, кажу, жанчыну біць? Я б ніколі ў такое не паверыла. Плача, кажа, што толкам нічога не бачыў...»*

Званок у дзверы — прыйшла пошта. Ад Ігара адразу два пісьмы. Бабуля цяпер — уся ў іх, і я развітваюся. Ад адчыненых дзвярэй трымцяць свечкі ля абразоў.

«Не введи нас во искушение, но избави нас от лукавого...» Я нясу з сабою копію старонкі школьнага сшытка, дзе дзіцячай рукою выведзены словы малітвы. Ігар-першакласнік пісаў для маці.

«Я ўсё жыццё насіла гэты лісток з сабою. Нядаўна трапіла ў аўтамабільную аварыю, п'яны вадзіцель урэзаўся ў аўтобус, — але сынава малітва зберагла мяне. Сыночак, хто ж цябе ўратуе?»

Сын «сядзеў» тым часам і чакаў чарговага і апошняга прыгавору. Два дні заставалася да вызначальнага моманту, пра які ў турме проста гавораць: лоб зялёнкай мазаць. Як у дзяцінстве — садранае калена.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

*«Пасля школы ўсё нядрэнна складвалася. Я заўсёды ў медыцынскі хацеў. Рыхтаваўся вельмі сур'ёзна. Здаў на «выдатна» хімію, біялогію. З сачыненнем не ведаю што атрымалася — сказалі «двойка», але мне яго не паказалі. Пайшоў у ветэрынарны — там экзамены пазней былі. Ведаеце, у нас дома сабака, помесь аўчаркі з лайкай — цікава было вучыцца, а заадно свайго сабаку лячыць. Але забралі ў армію. Тады якраз студэнтаў забіралі. Стаў рыхтавацца да службы — закончыў радыёшколу, курсы радыёаператараў — усё «на выдатна». Інстытут вырашыў кінуць: пасля службы хацеў усё ж паступіць у медыцынскі. Трапіў у вучэбку ў Тамбове, потым — у Малдавію, пад Ціраспаль. Гэта восенню было, а вясной 90-га па экстраннай трывозе нас адправілі ў Арменію — выконваць воінскі абавязак. Там якраз «карабахскія падзеі» былі. Атрымаў пранікаючае раненне голені.*

*У Малдавію вярнуліся — там таксама неспакойна: «прыднястроўскі канфлікт». Армія выступала ў ролі «хлопчыкаў для біцця». Канфліктуюць палітыкі — вінавата заўсёды армія. Дэмабілізаваўся ў першай чацвёрцы, сяржантам.*

*Прыехаў дадому, а ўжо свет перавярнуўся. Ішоў з адной дзяржавы — прыйшоў у другую. Пра інстытут і гаворкі быць не магло. За што жыць, каб вучыцца? За матчыны капейкі? Ды і не паступалі ўжо «за так». Пайшоў у ПТВ, на рэгуліроўку радыёапаратуры. Пасля вучобы мы павінны былі трапіць на радыёзаводы Віцебска. Але ўладкавацца было немагчыма нават тым, хто раней скончыў вучылішча. Без работы былі тыя, хто па 15 гадоў адпрацаваў. У вучобе сэнсу не стала. За якія месяцы два да заканчэння кінуў. Працаваў вартаўніком у Заходне-Дзвінскай базе СХТ, склады ахоўваў. Там у хуткім часе таксама дагавор скасавалі: выгадней бабку-пенсіянерку трымаць, якой нармальнай зарплаты плаціць не трэба. Жыў на выпадковыя заработкі: нешта купіў, нешта прадаў.»*

Тут і заканчваецца Ігарава жыццё «як ва ўсіх». Пачынаецца тое, што прывяло 22-гадовага хлопца з выдатнымі характарыстыкамі ў камеру смяротнікаў. Пры вынясенні прыгавору суд палічыў вызначальным тую рану, якая аказалася смяротнай — перарэзаная артэрыя на шыі. Было шмат допытаў, следстваў, мяняліся паказанні саўдзельнікаў злачынства. Глазуноў прызнаўся, што «біў нажом, але не забіваў». Капыцін не прызнаўся ні ў чым. «Некалькі разоў ударыў, але не нажом. Не забіваў». Глазунову адмералі 15 гадоў зняволення, Капыціну — «вышку».

Сёння, відаць, ніхто не дакапаецца да праўды — тры гады прайшло. І не журналістам рабіць гэта. Глазуноў «цягне тэрмін», Капыцін каля года правёў у «камеры смяротнікаў», захварэў на туберкулёз, лячыўся, зноў чакаў смерці. Пісаў хадайніцтвы — «не забіваў, разбярыцеся». Маці птушкай лятала ўсюды, куды можна, пісала — у ААН, Каралеве Англіі, ва ўсемагчымыя праваахоўныя міжнародныя арганізацыі, у святароў шукала паратунку. Прэзідыум Вярхоўнага суда адмяніў пастанову абласнога суда і змяніў меру пакарання — ад расстрэлу да 15 гадоў пазбаўлення волі. Следам быў пратэст Генеральнага пракурора Беларусі: рашэнне абласнога суда пакінуць без змянення.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

*«Увесь гэты час я не ведаю, на якім свеце жыву. Не сплю ні адной ночы — баюся ў сне памерці. Пайшла з работы — людзі ў жаночую кансультацыю са сваім болем прыходзяць, а я не магу яго падзяліць: усё адбалела. За час работы акушэркай многа жыццяў выратавала — іншы раз толькі ад мяне залежала, ці будзе жыць немаўля і маці ягоная. Людзі пазнаюць на вуліцы, дзякуюць.*

*Без сына маё жыццё дарэмнае.*

*У маі ў яго быў дзень нараджэння. Хацела зрабіць яму хоць нешта прыемнае — перадаць па радыё яго любімую песню «Ляцяць пералётныя птушкі». Не напісала, нешта спыніла мяне: усё ж ён моцна вінаваты перад людзьмі. Устала з сонцам, кажу ўслых: сынок, у дзень твайго нараджэння я сама табе праспяваю песню, правыю. Калі б суддзі чулі, як я спявала, — яны б паверылі: Ігар не забіваў...»*

— Ігар, дапусцім, вы ішлі красці. Чаму не вярнуліся, не кінуліся прэч, застаўшы дома чалавека?

— Цяжка сёння аб гэтым меркаваць. Усё неяк імкліва атрымалася.

Злачынства — яно развіваецца па сваіх жудасных законах, зацягвае, кідае на непрадказальныя, дзікія крокі, умомант робіць з «дадатных хлопчыкаў», мамінай уцехі кліентаў камеры смяротнікаў, пазначаных чорнымі праклёнамі «зэкаў». Чаму ж ідуць «дадатныя» красці, рабаваць, біць, чаму ўсё шчыльней абступае нас жудаснае кола насілля? Чаму пасля той камандзіроўкі я лаўлю сябе на тым, што вывучаю твары ігаравых равеснікаў і пакутліва-паталагічна спрабую адшукаць рысы, якія могуць выдаць здольнасць да зла, да крывавай крыўды невінаватаму? Не бачу такіх твараў, як не ўбачыла нічога і на твары Ігара. Чыесьці дзеці, яны народжаныя для дабра, а значыць прыгожыя і прыязныя. А назаўтра калега прыходзіць на працу — пабіты, без дакументаў... Зноў дзеці чалавечыя. Шасцёра.

Я паехала ў Наваполацк, у турму, з мэтай задаць Ігару Капыціну адзінае пытанне. Жорсткае — у дачыненні нават да злачынцы. Я задала яго.

— Ігар, я не жадаю гэтага нікому, але як бы ты паводзіў сябе, якой бы кары прасіў для злачынцы, калі б такое здарылася з тваёй мамай?

Ігар умее сябе паводзіць. Прыгожа будуе фразы. Але тут ён успыхнуў і выгукнуў:

— А як бы вы аднесліся да таго, што вашага сына незаслужана абвінавачваюць у забойстве?

— Для гэтага патрэбна, каб ён пайшоў рабаваць, красці, мог ударыць жанчыну.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПЕРСАНАЛІЯХ**

*«Добры дзень, мама! Зараз ноч на новы, 1996 год. У людзей — светлае свята. Дзе б ні быў чалавек у гэты час — ён думае пра будучыню. Пасля адмены смяротнага прыгавору ў мяне таксама з'явілася будучыня, і я за яе ўдзячны табе. Ты двойчы падаравала мне жыццё. Калі б не ты — мая «лебядзіная песня» была б ужо спетая. У такіх абставінах вельмі лёгка страціць розум. Калі мне пасля суда скавалі рукі, я не думаў пра сябе. Мне было страшна, як вы з бабуляй зможаце гэта перанесці. Мяне судзілі за чужы грэх. Я не вінаваты ў смерці. Калі нехта думае, што Боская кара некага міне — мне шкада іх. За час у камеры смяротнікаў я зразумеў столькі, колькі не зразумець за ўсё жыццё. Я навучыўся думаць. Нават мысліць. Можа, мой «дах» даў цеч, а можа я паразумнеў».*

(З пісьма І. Капыціна да маці пасля адмены прыгавору аб пакаранні смерцю. Потым будзе пратэст пракурора — і зноў існаванне паміж жыццём і смерцю...)

— Усё маё далейшае жыццё, калі суджана яму працягвацца, я буду рабіць адно: старацца прычыніць як можна менш гора маці, — так падсумаваў Ігар нашу размову ў турме.

— Неяк у адчаі выйшла на балкон — мы на дзевятым паверсе жывём — так захацелася паляцець уніз, каб скончыўся гэты боль... Але загадала сабе: ты не маеш права. Хто перадасць сыну скарынку хлеба? Каму ён патрэбны?

Яна хапаецца за кожны фрагмент жыцця сына, каб зразумець, дакапацца — чаму, ну чаму гэта здарылася з яе Ігарам, з якім ніколі не было вялікіх праблем?

«Я ніколі ягоныя кішэні не правярала. А тут пасля суда аддалі яго рэчы, і там бумажнік. Адкрыла — пусты. Толькі дзве фотакарткі, мая і бацькі ягонага. Я нават не ведала пра яе. Выходзіць, яму не хапала бацькі...»

«Каб не гэтая галота, каб усё як раней было — магчымасць працаваць, зарабляць, — мой сын ніколі б не пайшоў красці, рабаваць...»

Паламаныя лёсы.

Перакрэсленыя, змарнаваныя жыцці.

Не на вайне, не ў геройскіх сітуацыях — жыць прыгажэй хацелася.

Я не ведаю, што ў гэтай гісторыі, у гэтай жудаснай трагедыі ёсць абсалютная праўда. Яе ведалі двое — Таіса Пятроўна Собаль, светлая ёй памяць, і той, хто перарэзаў ёй артэрыю. Злачынца жыве — не дараваны (калі такое можна дараваць), не вымавіўшы словы аб сваёй страшнай віне. Халадзееш у пустой кватэры: на месцы ахвяры ў такой сітуацыі можа быць кожны. Але бездакорна ясна адно: куды б ні цэліла злая рука злачынцы, яна непазбежна — і найперш — і без промаху — трапляе ў сэрца ўласнай маці.

Ці бывае больш жорсткае пакаранне?

Відаць, бывае. Але не ў людзей.

*...На другі дзень камандзіроўкі іду ад Капыціных. Зноў дождж. Хаваюцца пад дах цёткі з чарніцамі і семкамі. Ногі даўно мокрыя — ад усіх сённяшніх і ўчарашніх сустрэч проста не заўважаеш лужын. З варот школы выходзіць пажылая жанчына з касою і граблямі. Той самай школы, 36-й, Ігаравай. Жанчына газоны касіла на школьным дворыку. Ідзе, відаць, абедаць.*

*Што ж яны ўсё трапляюцца, бабулі з косамі? Касіць у нас няма каму?*

**Людміла ВЕРАСНЁВА.**

**P.S.** Пленум Вярхоўнага суда Беларусі адхіліў пратэст Генеральнага пракурора. Ігар Капыцін пазбаўлены волі на 15 гадоў.

ЭКСТРЭМАЛЬНЫ БЫТ

# РАЗУМНАЕ, ДОБРАЕ, ВЕЧНАЕ ПАСЕЯНА. УСХОДЖАСЦЬ ДРЭННАЯ...

**НУ, ЯСНА, хто ў нас адказвае за сяўбу гэтага самага разумнага, добрага, вечнага. Настаўнік. Нас так вучылі. «Учительница первая моя...» і гэтак далей. У аддаленых населеных пунктах яшчэ захаваліся такія патрыярхальна-святыя адносіны да самой прафесіі. Больш па традыцыі. Настаўнік быў — інтэлігенцыя. Побач з наглядчыкам жывёлы, ад якога, пардон, пахла адначасова якасным гноем і няякаснай самагонкай, настаўнік выглядаў іншапланецянінам. Ён, скажам, мог растлумачыць сэнс таямнічага слова «плюралізм».**

**Так было. Як ёсць? У прынцыпе, людзі іншых прафесій здагадваюцца — як. Але з канкрэтнымі фактамі карціна пачынае набываць сакавітыя фарбы і шматлікія адценні. Факты дык факты.**

**У мяне ёсць два пісьмы ад настаўнікаў. Што ж, паслухаем факты з першых вуснаў. Не пашкадуеце...**

### ПІСЬМО ПЕРШАЕ

Аўтар пісьма прасіла не называць яе сапраўднага прозвішча і месца жыхарства. Яна баіцца. Я яе разумею і іду насустрач. Назавём яе Вера Пятроўна.

Вера Пятроўна жыве ў «радавым маёнтку». Так яна жартуе. Справа ў тым, што «маёнтак» пабудаваны ў 1910 годзе. Можаце ўявіць. Па пытанню рамонту сваёй развалюхі ў Савеце Міністраў яна была пяць разоў. Мае адказы. Задавальняючыя. Адказы ёсць. Рамонту няма. Два разы звярталася да Прэзідэнта. Дакладна ведае, што адно яе пісьмо было перaслана ў райвыканком. У сэнсе, прыязджалі нейкія пахмурныя дзядзькі, правяралі, так бы мовіць, «з выездам на месца». Хоць што там правяраць? Яны і самі выдатна ведаюць Веру Пятроўну і яе «маёнтак».

У яе ёсць прыкладна паўкіло адказаў. Усе без выключэння станоўчыя. Ну, вось, скажам: «На Ваш зварот у Савет Міністраў БССР паведамляем, што на працягу 1991 года Вам будзе пабудаваны дом за кошт сродкаў народнай адукацыі».

Вера Пятроўна піша, што гэты дом за кошт сродкаў народнай адукацыі ёй сніўся начамі. Яна, значыць, паверыла. Ах, дарэмна...

Потым яна атрымала яшчэ адзін ліст, дзе паведамлялася, што становішча праверана на месцы. Вырашана выдзеліць Веры Пятроўне дом з тых, якія будзе будаваць калгас. Грошы на гэта ў калгаса з'явіліся пасля візіту Веры Пятроўны ў Саўмін. Так бы мовіць, іронія лёсу.

Дамы пабудавалі. Што дзіўна. Свой дом Вера Пятроўна не атрымала. Што нядзіўна. Было «прадстаўленне» з выцягваннем нумаркоў. Потым дамы прастаялі пустымі яшчэ год. Ну а потым старшыня калгаса папрасіў Веру Пятроўну ўступіць свой дом стрыечнаму брату. Узамен абяцаў «па-чалавечы» адрамантаваць «маёнтак» Веры Пятроўны. Як яна піша, «я зусім забылася, што «па-чалавечы» кожны разумее па-свойму». Адным словам, кватэру яна ўступіла. «Па-чалавечы» не атрымалася. Яе халупу ніхто рамантаваць не збіраўся. Як кажуць маладыя людзі, «накалолі»...

Ну што ж, Вера Пятроўна паступіла як інтэлігент, старшыня — як старшыня. Нічога дзіўнага...

Праўда, неяк прыйшлі будаўнікі, пачалі нешта імітаваць, тыпу рамонтнай дзейнасці. Але потым, роўна праз тыдзень, зніклі, растварыліся ў таямнічай калгаснай рэчаіснасці. Уся вёска стрымана пасмяялася. А Вера Пятроўна пайшла да старшыні. Размаўляла зноў жа па-інтэлігенцку. Старшыня — па-старшынёўску: «Грошай няма. Трэба будаваць свінарнік». Як гаворыцца, ні дадаць, ні адняць. Свінаводства — ударны фронт.

У жніўні 1994 года перапіска з Саветам Міністраў аднавілася. Напрыклад, адтуль адказалі: як толькі будзе знойдзена брыгада будаўнікоў, рамонт вам зробяць. Можна падумаць, гэта была партызанская, а не будаўнічая брыгада. Калі яе трэба шукаць.

Што цікава — знайшлі. Брыгада папрацавала добра: насупраць халупы Веры Пятроўны ўзнікла віла, а два дамы пашырылі да памераў «паравоза». Людзям, больш патрэбным на гэтым свеце, чым настаўнікі.

У 1995 годзе Вера Пятроўна звяртаецца да аднаго з тагачасных намеснікаў Старшыні Саўміна. Адказ: рамонт будзе зроблены на працягу месяца. Вынік: прывезлі некалькі дзесяткаў лістоў сухой тынкоўкі. Усё.

Мясцовы райвыканком паведамляе ў апарат Кабінета Міністраў, што на рамонт дома выдзелены 20 мільёнаў рублёў, набыты будаўнічыя матэрыялы. Прыйшлі будаўнікі, абліцавалі цэглай хату, прыбілі роўна 40 сырых дошак і адбылі з пачуццём выкананага абавязку.

Усю зіму Вера Пятроўна тэлефанавала ў райвыканком. Яе супакойвалі: вось, маўляў, пацяплее... Праўда, яшчэ да цяпла выканком прыняў рашэнне адмовіць Веры Пятроўне ў рамонце дома з-за адсутнасці грошай. Настаўніца даведалася аб гэтым выпадкова і праз два дні трапіла ў адну з мінскіх бальніц з мацнейшым неўрозам. Яна цяпер тут часта бывае з гэтай нагоды...

Старшыня выканкома стаў цяпер народным дэпутатам. Адзін з яго прамых абавязкаў — выконваць наказы выбаршчыкаў. На яго месцы сядзіць іншы чалавек. Цяпер ён будзе пісаць адпіскі. А потым яго выберуць дэпутатам. Ці павысяць — людзі павінны расці — па апаратнай лініі. А Вера Пятроўна застанецца ў сваёй халупе...

Ёй за сорак. Поўнасцю сапсавана здароўе. Ніякіх зберажэнняў не засталося. Зарплату, як зараз прынята, атрымлівае даволі рэдка. Застаецца толькі работа. Цікава, з якім настроем яна ўваходзіць у клас?..

Яшчэ ў Савеце Міністраў ёй аднойчы параілі судзіцца з райвыканкомам. Раілі, як бачна, людзі з гумарам. З такім жа поспехам можна спрабаваць спыніць цягнік галінкай.

Уласна кажучы, зашыфраваць Веру Пятроўну мне прыйшлося па яе просьбе. Справа ў тым, што на «будоўлі» замільгалі будаўнікі, нешта пачало рабіцца. І Вера Пятроўна моцна баіцца. Можна сказаць, апошняя надзея...

Праўда, ад гэтага нічога не мяняецца. У сэнсе, сістэма...

### ПІСЬМО ДРУГОЕ

Другое пісьмо ў мяне ад Ларысы Васільеўны Курчанавай з Амбросавіцкай СШ Шумілінскага раёна. У адрозненне ад Веры Пятроўны яна не баіцца ўжо нічога. Стамілася баяцца.

Тут у іх такія праблемы. Ва ўсіх настаўнікаў, не толькі ў Ларысы Васільеўны. Па-першае, старшыня мясцовага калгаса «Праўда» адмовіўся даць згоду на прыватызацыю кватэр. Па-другое, гэтыя кватэры адключылі ад цэнтральнага ацяплення. Па-трэцяе, не плацяць зарплату, і яна смешная. Па-чацвёртае, апошнія зімы займаюцца пры сярэдняй тэмпературы ў класах 7-8 градусаў. Па-пятае, матэрыяльнае забеспячэнне школ паступова набліжаецца да нулявой адзнакі. Хопіць, ці што?

Смешна (а як яшчэ скажаш?) выйшла з ацяпленнем. З аднаго боку, цэнтральнае ацяпленне адключылі, з другога — забаранілі ставіць печкі. Сам старшыня і забараніў. Канешне, скардзіліся ў выканком. Прыехалі. Прачыталі лекцыю аб «цяжкім фінансавым становішчы гаспадарак». Потым яшчэ прыслалі пісьмо. Расказалі, што ў калгаса няма грошай, і паліва ён купіць не можа. Між іншым, паведамілі: у кватэрах дазволена ставіць печкі і самім, значыць, абаграваецца. Каштоўная інфармацыя.

А старшыня калгаса Ларысу Васільеўну, напрыклад, пісьмова папярэдзіў, што выселіць з кватэры, бо яна парушае тэхніку пажарнай бяспекі.

Самае смешнае тое, што калі ў 1994 годзе печкі ставіць было нельга, то ў наступным — ужо можна. Верагодна, змяніліся патрабаванні тэхнікі бяспекі.

«Пра матэрыяльнае становішча настаўнікаў нават пісаць не хочацца», — паведамляе Ларыса Васільеўна. А я ўсё ж напішу яшчэ раз. Хоць гэта і агульнавядома.

Настаўнікам многа і шчодра абяцалі павышэнне зарплаты. Ну а што ім маглі абяцаць? Адпаведныя дакументы, канешне, падпісалі. Праўда, самі дакументы не ёсць грошы. Грошы ішлі і ідуць больш марудна, чым расце інфляцыя. Да таго ж, тарыфныя каэфіцыенты знізілі, прыбаўка да зарплаты аказалася мізэрнай. Дык што тут галоўнае? Паабяцаць. Вера ў абяцанкі гістарычна закладзена ў нашым менталітэце. Што дакладна вядома нашым палітыкам.

Настаўнікі Шумілінскага раёна нават дайшлі да напісання калектыўнага пісьма Прэзідэнту. Я чаму пішу «дайшлі»? Таму, што для людзей гэтай прафесіі гэта нехарактэрна — бунтаваць. Парушаць прыняты парадак. Яны ж нас вучылі: «Партыя і радзіма паклапоцяцца аб усім, вам думаць не трэба». І вось на табе, такую ім свінню «партыя і радзіма» падклалі.

Пад пісьмом паставілі подпісы прадстаўнікі 12 школ раёна: факт беспрэцэдэнтны. «Мы разумеем, — пішуць настаўнікі, — усю складанасць эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і цярпліва чакаем ды спадзяёмся на лепшае. Але ж эканоміць на дзецях, на якасці адукацыі — значыць ставіць крыж на заўтрашнім дні краіны, бо будучыня ўсіх наступных рэформаў сядзіць сёння за партамі...» Святыя словы. Але — пытанне: хто гаворыць пра рэформы? Дакладней, пра іх толькі гавораць. Не больш. Так што яшчэ невядома, што там сёння сядзіць за партамі. Будучае ці ўсё тое ж мінулае.

«...адмена льгот для сельскіх настаўнікаў, — цытую далей, — адымае частку заробку на аплату жыллёва-камунальных паслуг, а яшчэ ж і цэны на тавары ў сельскай мясцовасці значна вышэйшыя, чым у гарадах (ды асартымент жадае быць многа лепшым)».

Завяршаецца пісьмо так: «Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Звяртаючыся да Вас, мы яшчэ спадзяёмся, што і Прэзідэнт, і ўрад урэшце рэшт павернуцца тварам да настаўнікаў, каб сумеснымі намаганнямі ўзняць сацыяльны статус і прэстыж нашай прафесіі».

Сам бы падпісаўся. І ўсе настаўнікі падпісаліся б. Усё так, усё правільна. Але мне свярбіць даць

### ПАРАДЫ ПАБОЧНАГА

Ёсць такі анекдот. Да мудраца прыходзіць юнак і пытае: як стаць вялікім вучоным?

— Трэба адмовіцца ад усяго, прывыкнуць да голаду, холаду, жабрацтва. І так да сарака гадоў.

— А потым?

— А потым ты прывыкнеш.

Прыкладна ў такія ж умовы пастаўлена сёння сельская адукацыя. Па вялікаму рахунку, яна зараз нікому не патрэбна і толькі блытаецца пад нагамі. Не да яе. У прынцыпе, тое ж можна сказаць пра ўсіх іншых бюджэтнікаў.

Можна, канешне, яшчэ нейкі час эксплуатаваць друкарскі станок і выпускаць каляровую паперу пад назвай «грошы», можна час ад часу браць у адных і аддаваць другім і наадварот. Скажам, не плаціць пенсіянерам, а заплаціць настаўнікам. Што зараз і робіцца. Ну а што потым?

Потым новы анекдот: «У шлях дык у шлях, сказаў джэнтльмен, пакрочыўшы ў бездань». Уласна, якія яшчэ аргументы патрэбны ўладзе, калі захваляваліся такія заўсёды законапаслухмяныя настаўнікі?

Ціск у катле нельга павышаць да бясконцасці, ведаючы, што пару ўжо некуды выпускаць. Можа проста выбухнуць...

Адно ведаю дакладна: у кожнага дзяржаўнага мужа некалі была першая настаўніца. Магчыма, яны нават памятаюць, як яе звалі. Хоць наўрад ці...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# ПАНЯЦЦЯ «ПРАВІНЦЫЯ» Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ТВОРЧАСЦІ НЯМА І БЫЦЬ НЕ МОЖА

**У Наваполацку выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага альманаха «Край», рэдактарам і ўкладальнікам якога з'яўляецца вядомы журналіст і паэт Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ. З ім гутарыць карэспандэнт «Звязды».**

**— Як нарадзілася ідэя альманаха?**

— Гэта адбылося прыкладна год назад, калі мы ўтварылі Полацка-Глыбоцкую філію Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, з мэтай аб'яднаць пісьменнікаў, якія жывуць у Полацку, Наваполацку, Паставах, Глыбокім — у паўночна-заходнім Прыдзвінні. Для пісьменніка вельмі важна бачыць свой твор надрукаваным. А для нармальнага развіцця літаратуры асаблівае значэнне мае існаванне літаратурна-мастацкіх часопісаў. Што і казаць, зараз іх тыражы зусім невялікія, таму з'яўленне кожнага новага выдання такога кшталту — факт, безумоўна, станоўчы.

Дзякуючы наваполацкім фірмам «Модуль-НП» і выдаўцу Сяргею Малалеткіну — маладому літаратару, які займаецца яшчэ і прадпрымальніцкай дзейнасцю, — з'явілася магчымасць на добрым паліграфічным узроўні выдаць такі альманах.

Мы дэкларуем у першую чаргу прапаганду творчасці літаратараў, якія жывуць на Полаччыне. Як пісаў У. Караткевіч, мой край — дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель... Аднак назва нашага альманаха — «Край» — мае на ўвазе не толькі «малую радзіму», не толькі беларускі край, але ўключае больш шырокі сэнс: нашы Францыск Скарына, Сімяон Полацкі належаць усяму свету. Таму, не замыкаючыся ў вузкіх геаграфічных (нават нацыянальных) рамках, мы хочам стварыць літаратурную палітру, якая базіруецца ўсё-такі на глебе канкрэтнага геаграфічнага краю.

У 1-м выпуску альманаха разам з полацкімі і глыбоцкімі пісьменнікамі і паэтамі (Алесь Жыгуноў, Марыя Баравік, Герман Кірылаў, Лявон Неўдах), а таксама маладымі — Ірына Дарафейчук, Лера Сом друкуюцца і нашы землякі, якія не парываюць сувязі з роднай зямлёй — Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін. Друкуецца цікавы твор Франца Кафкі «Ператварэнне» ў перакладзе нашага земляка Лявона Баршчэўскага. Работа вядомага крытыка Пятра Васючэнкі паклала пачатак літаратурным спрэчкам і аглядам. Цікавая і філасофская праца кандыдата філасофскіх навук Рыгора Грудніцкага пра дзеяча эпохі Адраджэння Андрэя Волана. Пра гісторыю Полацкай зямлі пішуць Сяргей Тарасаў і Ніна Здановіч.

Мяркую, спалучэнне названых аспектаў і надасць альманаху асаблівы твар, дазволіць яму не згубіцца ў агульналітаратурным працэсе. Мы свядома не займаемся бягучай палітыкай, таму што ў нашых варунках сам факт выдання літаратуры ўжо ёсць палітыка.



**— Альманах арыентуецца ў асноўным на творчасць мясцовых літаратараў і землякоў, якія не парываюць сувязей з «малой радзімай»?**

— Шлях у наш «Край» адкрыты кожнаму літаратару не толькі Прыдзвіння, але ўсім, хто жыве ў Беларусі і нават за яе межамі — вядома, пры ўмове якаснай, цікавай літаратуры. Пісьменніца Ірына Жарнасек на наступны нумар рыхтуе пераклад з польскай мовы апавядання Баляслава Пруса. Перакладчык з нямецкай мовы віцябчанін Уладзімір Папковіч рыхтуе падборку нямецкіх аўтараў...

**— Спадар Гальпяровіч, наколькі я зразумела, альманах ствараўся на падзвіжніцкім энтузіязме?**

— Так, у нас няма штатнай прафесійнай рэдакцыі. Праца рэдактара і ўкладальніка альманаха — гэта мой грамадскі абавязак як кіраўніка Полацка-Глыбоцкай пісьменніцкай філіі. Нельга не адзначыць таксама прыхільнае стаўленне да нашага праекта наваполацкіх гарадскіх уладаў, у прыватнасці, загадчыка аддзела культуры гарвыканкома Людмілы Касьянавай.

З цікавасцю «Край» сустрэты і ў навуковых колах. Дарэчы, ідэю літаратурнага выдання мы выношвалі калісьці разам з прафесарам Полацкага універсітэта Эрнстам Бабенкам, аднак ва універсітэта не было фінансавых магчымасцей. Цяпер, калі альманах выйшаў, можна было б абдумаць формы ўдзелу ў ім і універсітэта, і Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. Талакой рабіць справу значна лягчэй.

**— На якой мове выдаецца «Край»?**

— Пераважная большасць твораў друкуецца па-беларуску. Былы вайсковец Аляксандр Мартыненка піша па-руску, але ўспомніў родную ўкраінскую, пачаў спрабаваць пісаць па-беларуску, у яго ёсць пераклады, таму яго падборка друкуецца на трох мовах — рускай, беларускай, украінскай. Мы не можам адгароджвацца ад свету: калі нам будуць прапаноўваць цікавыя, арыгінальныя творы па-руску, мы іх будзем друкаваць. Але ўсё ж стараемся перакладаць на беларускую мову найбольш цікавыя творы сусветнай літаратуры. Кафка, напрыклад, цудоўна гучыць па-беларуску!.. Гэта ўзбагачае і беларускую мову, і нашы ўяўленні пра стылістыку. Беларускамоўны чытач далучаецца да сусветнага літаратурнага працэсу непасрэдна, напрамую.

**— Які тыраж альманаха?**

— Тыраж першага выпуску невялікі — і з эканамічнага пункту гледжання (мы робім альманах на добрым паліграфічным узроўні, добрай паперы — гэта вымагае пэўных выдаткаў), і з чыста дэбютных меркаванняў — 500 экземпляраў. Каб альманах не залежваўся, не ператвараўся ў мёртвы груз. Мы не гонімся за колькасцю. Галоўнае для нас — не дапусціць «правінцыйнай самадзейнасці», а значыць, забяспечыць высокую якасць прадстаўляемых работ. Справа тут не ў прозвішчы і не ў членстве ў саюзе пісьменнікаў. Калі масціты пісьменнік, прабачце, прапануе халтуру, — нягледзячы на ўсе заслугі перад літаратурай, месца ў нашым выданні «выйграе» ў яго малавядомы аўтар, які прапаноўвае таленавіты твор.

Мы не ставім вузка-рэгіянальныя задачы, а імкнёмся ўдзельнічаць у агульналітаратурным працэсе рэспублікі.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»

Алег ЛОЙКА

# СЛОВА ЎЗЫХОДЗІЦЬ, ЯК СОНЦА...

СЛОВА ўзыходзіць, як сонца, і святлом сваім яно называе зямлю зямлёй, неба — небам, раку — ракой, лугі, палі, лясы — сенажаццю, палеткамі, пушчамі. А яшчэ сенажаці і палеткі — гэта ўрочышчы, кожнае — са сваёй назвай, як урочышчавыя, урачыстыя назвы маюць і нашы пушчы — Белавежская ці Налібоцкая. Але ўслухайцеся не так у іх назвы, як проста ў беларускія найменні лясоў з розных пародаў дрэў: бор — вячысты, баравы; сасняк, хвайняк, саснячок і хвайнячок; бярэзнік і алешнік, дуброва і гай; асіннік, маладняк, маладнячок. З асаблівай павагай скажуць у нас пра чарналессе, а ўжо з абавязковым замілаваннем пра лясок, што невысок, пра задуменныя пералескі, калінавыя, чаромхавыя ўзлескі і пра арэшнікавы падлесак... Што ж, наш край, наша Беларусь — лясныя, лясістыя, пушчанскія. Калі ў грэнландскіх эскімосаў маецца сорак назваў снегу, то якое тут дзіва, што ў насельніка баравога краю назваў лясных, нашых калысак таксама ледзь не да сарака!..

Наша, аднак, беларускае слова ўзыходзіла не толькі з сонцам, — узыходзіла яно і пад маладзіком і поўняй, і проста пад зорамі і пад гронкавымі, рабінавымі сузор'ямі, калі грэчаскі Арыён станавіўся ў нас Трыма Касцамі, а сузор'е іншага грэчаскага боства — Сітам, а ранішняя ці вячэрняя багіня Венера — Мілавіцай...

Узыходзіла яно, беларускае слова, у небе, узыходзіла на зямлі. А на зямлі, мабыць, найперш кветкамі — пралескай, шыпшынай, дзівасілам, касачамі, вяргіняй, півоняй. Кветкамі ўзыходзіла больш, ды пры лузе, пры сцежках-дарожках кусцілася таксама разнатраўем. Ды ніякое яно не разнатраўе тое, калі яно стала ў нас драбчастым урагом і вострашабельнай асакой, шаўковай травой і духмяным святаяннікам, урадным асотам і добрымі, смачнымі заечымі кропам ды капусткай, прыгожымі, мяккімі, утульнымі пантофелькамі Маткі Боскай, зязюльчынымі панчошкамі...

Ды, дарэчы, з кветкамі якраз наша беларускае слова ўзыходзіла старабеларускім друкаваным — з літарамі друкаванымі, — з тымі, што ў Бібліі Францішка Скарыны, якой споўніцца вось-вось ужо 480 гадоў, і якія называюцца буквіцамі. Бо гэта ж у буквіцах скарынаўскіх квітнелі і васількі, і рамонак, і ружы, і званочкі, і квет канюшыны! Бо гэта ж менавіта як прыгожую,квяцістую ўспрымаў сваю мову Францішак Скарына; менавіта так успрымаў, цешачыся, што з ёю Бог яго ў свет выправіў, цешачыся, што ёю, мудрай, ён можа выкладаць люду паспалітаму прамудрасць Божую!

І тою ж скарынаваю мовай у няменшай ступені ганарыўся рэдактар Трэцяга Беларуска-Літоўскага Статута 1588 года канцлер Вялікага Княства Літоўскага гетман Леў Сапега, калі ў сваёй прадмове да яго пісаў, што гэта ўдвая важна, што не на іншаземнай мове, не на лаціне атрымлівала Княства законы, а на ўласнай, роднай, айчыннай мове.

Успомнім тут і верш ад 22.08.1621 года Яна Казіміра Пашкевіча «Полска квитнет лациною»:

*Полска квитнет лациною,*
*Литва квитнет русчизною...*
*Ведзь же юж Русь, иж тва хвала*
*По всем свете юж дойзрала;*
*Весели ж се ты, Русине,*
*Тва слава нигды не згине!*

Але ўжо з часоў Пашкевіча мала вяселля знала «русчизна», што была ўласна беларушчынай, мала вяселля знаў «русін», што быў прашчурам сённяшняга беларуса, мала вяселля знала старабеларуская мова, якая на сёння абярнулася мовай проста беларускай. Мала вяселля знала яна ў Вялікім княстве Літоўскім пасля Люблінскай уніі 1569 года, а затым у Рэчы Паспалітай, а затым у імперыі Раманавых. Бо ішла паланізацыя, бо ішла русіфікацыя. Бо слава мовы станавілася было славай; бо тое, што славілася, пачало зняслаўлівацца; бо слава павярнулася спінаю да сваёй мінуўшчыны...

Не! Увогуле беларуская мова не чэзла, не ўмірала, — увогуле яна жыла, увогуле красавала, але ўжо не кніжнай, не дзяржаўнай, не элітарнай, а толькі ў вуснах ніжэйшых слаёў народа — селяніна і местачкоўца, мешчаніна і рамесніка чаляднага і падчаляднага. У XVII—XVIII стагоддзях беларускае слова пайшло ў народную казку, у народную песню. Сёння лічыцца, што беларуская народная казка — самая прадстаўнічая ў свеце (па слоўніку шведскага лінгвіста Томпсана). Сёння беларуская народная песня па агульнай колькасці і варыянтах сапернічае з адметнай суседняй літоўскай народнай песняй. Ды што казаць, калі ўжо першазбіральнік нашых фальклорных скарбаў Ян Чачот у сваіх шасці зборніках «Сялянскіх песняў з-пад Нёмна і Дзвіны» апублікаваў больш тысячы ўзораў беларускай песні...

Што, аднак, аказалася такім неспрыяльным беларускаму слову, беларускай мове? І неспрыяльным у такой ступені, што ў канцы XIX стагоддзя Францішак Багушэвіч мусіў з гараваннем пісаць пра яе стан, яе лёс, мусіў папярэджваць: «Шануйце мову сваю, каб не ўмерлі!»

Напачатку XX стагоддзя Янка Купала звяртаўся з абурэннем да ворагаў беларушчыны:

*Чаго вам хочацца, панове,*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*

Сапраўды, купалаўскі зварот «панове» быў менавіта зваротам да пануючых, да ўладу маючых. І не толькі да тых, што панавалі ў Беларусі на пачатку XX стагоддзя, але і да тых, што гаспадарылі ў ёй у сярэднявеччы ды адракліся ад мовы бацькоў сваіх, як і да тых, што стануць панаваць потым у Беларусі ў сярэдзіне і пры канцы XX стагоддзя і таксама адракуцца ад мовы сваіх прашчураў. Хто ж былі, хто ёсць, хто могуць быць яшчэ гэтыя «панове», якія ў нішто ставілі і ставяць беларускую мову і яе лёс?

З горыччу прыгадваеш у гэтай сувязі, як партыйны кіраўнік М. С. Хрушчоў пахваліў нас: «Вось малайцы беларусы: яны першыя адмовіліся ад сваёй мовы, першымі і прыйдуць да камунізму!» Мне асабіста па-асабліваму крыўдная тая «пахвала», бо была прамоўлена на прыступках галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе я вучыўся і дзе вось колькі ўжо гадоў працую.

Сапраўды, да псіхалогіі тых, што «адмовіліся», дабірацца не проста. Пра што гаворыць наступная парадыгма: адмовіліся не толькі ў XX стагоддзі, адмаўляліся і раней — у XVII-м, у 1696 годзе (роўна 300 гадоў таму!), калі на сейме Рэчы Паспалітай ніхто з прадстаўнікоў Вялікага Княства Літоўскага не ўзняў ні рукі, ні голасу ў абарону існуючага статуса беларускай мовы. Паводле закона, згодна са Статутам ВКЛ 1588 года, пісар земскі павінен быў пісаць позвы людзям беларускімі словамі, кірыліцкімі літарамі. Чым вельмі ганарыўся канцлер ВКЛ Леў Сапега і ўсіх астатніх сваіх суродзічаў па Княству павучаў, запрашаў ганарыцца. Чаму так адбылося? Што змянілася? А тое, што да канца XVII стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім ўсталявалася двухмоўе — польска-беларускае. І нічога нібы беларускія магнаты і шляхта не traцілі, калі адхіснуліся ад мовы прашчураў, бо не traцілі ўлады і багаццяў сваіх. О, якімі яны былі патрыётамі Вялікага Княства Літоўскага падчас Люблінскай уніі 1569 года, якая пагражала ім стратай усяго — палітычнай улады, маёнткаў, культурнай асобнасці, мовы! Статутам 1588 года яны, па сутнасці, пацвердзілі ўсе свае прывілеі ў родным Княстве, у тым ліку і прывілей на беларускую мову як дзяржаўную. Сітуацыя да 1696 года змянілася, змянілася і пазіцыя: абы ціха было. Ціхма ўхвалілі магнаты — панства ды шляхта-паўпанства афіцыйнае паўнаўладдзе ў краі немясцовай мовы.

Самаахвоць гэта адбылося? Не самаахвоць, бо ў адлеглым па трыванні часе, бо не без палітыкі экспансіўнага акаталічвання і апалячвання. Ды, як быццам бы і самаахвоць, — бо ж ціха, бесканфліктна застабілізавалася. Гэтак жа, як стабілізавалася потым і пасля паўстання 1863 года — з пашырэннем праваслаўя, царкоўна-прыходскіх школ, настаўніцкіх семінараў з іх шавіністычнай казёншчынай навучання і пропаведзяў, з усталяваннем абывацельска-мяшчанскай, местачковай атмасферы, адносінаў да «дзеравеншчыны» як да чагосьці ніжэйшага, непаўнацэннага — пры лакейскай паслужлівасці руска-чыноўніцка-гарадскому як нібыта «истинно» культурнаму, «истинно» прэстыжнаму.

У бліжэйшы да нас пасляваенны час беларускае стала — у мяшчанска-гарадскім асяроддзі — прыніжацца як калгаснае, як, зноў жа, дзеравенскае і, значыць, адсталае насупраць модна-гарадскога, прэстыжна-рускага, вучонага, адукаванага, адзінакультурнага. А так як тэхнічныя ВНУ перайшлі на рускую мову навучання, то які толк мог бачыць у сваёй мове калгаснік з яго жыццёвым прагматызмам? І такім чынам тэхнічна-інжынерная і сельска-гаспадарчая інтэлігенцыя станавіліся рускамоўнымі. Вінаваціць у тым бацькоў? Не будзем. Не будзем вінаваціць і тых бацькоў у гарадах, што для сваіх дзяцей выбіралі рускамоўныя школы, бо яны мусілі меркаваць, разлічваць, што дзе больш прыярытэтнае, з чым звязана ў перспектыве лепшае будучае іх дзяцей.

Акрамя таго, ва ўсходняй Беларусі ў першыя пасляваенныя гады заставалася яшчэ незагойнаю памяць даваенных рэпрэсій, у тым ліку і за так званую нацдэмаўшчыну, за беларушчыну, за беларускую мову.

Няцяжка зразумець таксама і колішняга апалячанага магната ці шляхціча, які ў нішто ставіў сваю беларускую мову як хлопскую, хамскую, бо ў доўгія XVII—XVIII стагоддзі яна, беларуская мова, як ужо гаварылася, заставалася толькі пад страхой беларускіх сялян ці местачкоўцаў і мяшчанаў. Але мы павінны заўсёды памятаць, — дзеля гістарычнай праўды, — што з асяродкаў той жа шляхты выйшлі Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Кастусь Каліноўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч ды і сам Янка Купала. Усе яны вунь як шанавалі і любілі беларускае слова — слова простага, працоўнага народа (ён жа хавальнік і першаносьбіт гэтага слова). А, будучы шляхцюкамі, і Тадэвуш Касцюшка, і Адам Міцкевіч, і Кастусь Каліноўскі былі ж «панове». Ды гэта былі, вядома, не тыя «панове», да якіх звяртаўся Янка Купала:

*Што ж вам зрабіла тая мова,*
*Паверце, вашай ён не краў,*
*Сваё ён успомніў толькі слова,*
*З якім радзіўся, падрастаў.*

Мяняліся часы, мяняліся «панове», вонкава па-рознаму «білі трывогу аб той мове, якой азваўся беларус» (напрыклад, афіцыйная партыйная прапаганда як быццам прызнавала неабходнасць «нацыянальнай формы пры сацыялістычным змесце» ў галіне літаратуры і мастацтва), але па сутнасці прадаўжаўся ўсё той жа працэс — вынішчалася беларушчына. Народ, так бы мовіць, вынароджваўся, нацыя дэнацыяналізавалася, мова выцяснялася з грамадскага ўжытку, адмірала. Было ўсё на мяжы канчатковага адлявання. Ды вось пачаліся такія падзеі, як перабудова, распад СССР, рэформы, прыняцце Закона аб беларускай мове, абвяшчэнне Беларусі суверэннай дэмакратычнай дзяржавай, нацыянальнае Адраджэнне. Пачало выходзіць на авансцэну ў якасці паўнацэннага, дзяржаўнага беларускае слова. Здавалася, што напрыканцы стагоддзя пачне збывацца, нарэшце, прароцтва Купалы:

*Свабодзе, роўнасці і знанню*
*Мы працярэбім сабе след,*
*І будзе ўнукаў панаванне*
*Там, дзе сягоння плача дзед.*

Я прыходжуся ўнукам майму любімаму Янку Купале. У мяне самога ўжо выраслі ўнукі. Старэйшы ўжо нават студэнт, а малодшы самы ўжо ходзіць у другі клас школы. Але ж як з панаваннем вашых і маіх таксама ўнукаў, шаноўны Іван Дамінікавіч?

А з панаваннем унукаў у сёлетнім навучальным годзе ў Мінску справа выглядала так: засталося ўсяго 17 працэнтаў беларускамоўных школ, у той час калі летась іх было ледзь не 70 працэнтаў (ад агульнай колькасці). Так што даводзіцца зноў пытацца: «Чаго вам хочацца, панове?» І яшчэ: «Чаму гэта вам так хочацца? Дзеля чаго ўсё гэта?»

Чаму? — Тут адказваць лягчэй: ідзе рэстаўрацыя, вяртанне да старога — старых зняважлівых, дыскрымінацыйных, хамскіх адносінаў да беларускай мовы. Ужыванне яе зноў аб'яўляецца нацыяналізмам, апошнім размахваюць па-сталінску, як жупелам...

Як сонца, узыходзіла слова наша, са святлом сонечным узыходзіла. Ды колькі разоў згушчаліся над ім хмары, згубай пагражалі яму. А смерць слова страшней за смерць чалавека. Бо людзі пасля людзей нараджаюцца зноў, а памерлае слова — не ўваскрасае. Памірае слова — памірае народ (першамудрасць Ф. Багушэвіча!). Таму ратаванне наша — ва ўсведамленні, што ёсць і будзе наша мова, у кульце слова — слова роднага ды на высокім пасадзе, ды ў чырвоным куце, ды спавітага, як на покуце, ручнікамі ў блакітныя васілёчкі, у чырвоныя ружы і ясныя сонейкі!

РЭПЛІКА

## ЗАМЕСТ ПАДЗЯКІ — РАЗНОС

*Выхад у свет новай кнігі — заўсёды падзея. Выхад новага слоўніка — падзея рэдкая і незвычайная. Бо ў дадзеным выпадку чытач мае справу не проста з «друкаваным выданнем у форме збрашураваных і пераплеценых разам аркушаў з тэкстам і ілюстрацыямі» (адно з вызначэнняў паняцця «кніга»), а з выданнем даведачным, спецыфічным у сэнсе як яго прызначэння, так і «сабекошту» (лексікаграфія — справа надзвычай працаёмкая). Асабліва ўсё гэта датычыцца слоўніка перакладнога, бо ён яшчэ закліканы выконваць, так бы мовіць, камунікатыўную функцыю, адыгрываць ролю сувязнога, пасрэдніка ў моўных і, значыць, культурных дачыненнях паміж народамі.*

*Нядаўна выйшаў у свет і з'явіўся ў кнігарнях «Русско-белорусский словарь для военных» («Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў»). Падзея ў культурным жыцці? Безумоўна. Тым больш, што наша кнігавыданне знаходзіцца сёння, па вядомых прычынах, у вельмі цяжкім стане. І, здавалася б, застаецца толькі парадавацца ды павіншаваць аўтараў слоўніка і выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», якое яго выпусціла.*

*Здавалася б... Але не тут, як кажуць, было. Не ўсім з'яўленне «Руска-беларускага слоўніка для вайскоўцаў» прыйшлося даспадобы. Пра што красамоўна сведчыць змешчаная ў газеце «Знамя юности» заметка Г. Сечкі пад вельмі дасціпным («остроумным») загалоўкам «От толкового до военного — один шаг»(?) і такім жа дасціпным, у выкананні аўтара, малюнкам. Кажучы тэрмінамі слоўніка, аўтар заметкі сустрэў яго ў штыкі, франтальна атакаваў. Плён нялёгкай працы лексікографаў і выдаўцоў ён называе іранічна-пагардліва «удивительным образцом филологической науки», «культурной акцией цвета хаки» і да т. п.*

*Чаму так? Па якой прычыне? Журналіст выявіў у слоўніку сур'ёзныя недахопы, не пагаджаецца з прынцыпамі адбору лексікі і перакладу з адной мовы на другую? Не. Пра сам слоўнік як такі, пра яго якасць, яго навуковы ўзровень Ю. Сечка нічога не гаворыць. Праблемы сістэмнага стварэння і ўпарадкавання сучаснай ваеннай тэрміналогіі яго, як відаць, мала цікавяць. Падобна, што ён нават і не чытаў слоўнік, а зыходзіць толькі з той інфармацыі, якую атрымаў падчас прэзентацыі кнігі ў Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь.*

*Відавочна, што адмоўная рэакцыя карэспандэнта «ЗЮ» выклікана іншай прычынай — самім фактам выдання слоўніка, у назве якога ёсць прыметнік «беларускі» і які, як паведамляюць яго аўтары, мае сваёй задачай «отразить лексический запас белорусского литературного языка, который может обслуживать сферу войсковых формирований». Гэты факт Ю. Сечка не можа станоўча ўспрыняць і прыняць, не можа з ім зміфыцца, прыпадабняючыся твэнаўскаму персанажу негру Джыму, які, памятаеце, з абурэннем дапытваўся ў Гека Фіна: «Чаму гэта розныя французы не гавораць на нашай, на чалавечай мове?» Чаго варты такі пасаж заметкі: «...Но тут на помощь горемычным любителям белорусского языка пришла самоотверженная четверка специалистов — филологов из Управления воспитательной работы и информации Министерства обороны республики...» Дастаецца і міністру абароны Леаніду Мальцаву. Прытым абвінавачвае яго Ю. Сечка адразу па двух, так бы мовіць, артыкулах. Міністру інкрымінуецца тое, што, па-першае, яму «также небезразличны судьба родного языка и то, на каком языке отдаются военные команды и делаются обозначения на оперативных картах», і што, па-другое, «выделение средств на издание «слоўніка» произошло также с подачи министра».*

*Вось так. Вось такая... лексікаграфія. Запрасілі журналіста на прэзентацыю кнігі, падзяліліся з ім добрай навіной, а з яго пяра — разнос*

**В. ДЗЯМЕШКА,**
**мовазнаўца.**

***Вядучы рубрыкі Анатоль ВЯРЦІНСКІ.***

## «ШЭРАЯ КНІГА» АБ ЧОРНЫХ СПРАВАХ

**Каб прыцягнуць увагу грамадскасці да той ці іншай праблемы, зараз існуе шмат магчымасцей. Можна пісаць аб тым, што набалела, у перыядычным друку, выступіць па радыё ці тэлебачанні...**

Але адна справа — разрозненыя, адзіночныя галасы і зусім іншая — факты, сабраныя разам. Яшчэ ў XVII стагоддзі людзі прыдумалі выдаваць так званыя «каляровыя кнігі». У «белыя», «зялёныя», «чырвоныя», «жоўтыя» і іншыя зборнікі змяшчаліся адпаведныя тэматычныя дакументы і матэрыялы. Каб апраўдаць сваю палітыку ў першай сусветнай вайне, царскі ўрад Расіі выдаваў «аранжавыя» кнігі. «Карычневая кніга пра падпальванне Рэйхстага і гітлераўскі тэрор» і «Чорная кніга пра фашызм» дакументальна сведчаць аб злачынствах «карычневай чумы» нашага стагоддзя...

У нашай краіне ёсць толькі адна «каляровая» кніга — «Чырвоная». У ёй, як вядома, змешчаны рэдкія віды жывёл і раслін, што патрабуюць аховы. Але хутка ў Беларусі з'явіцца яшчэ адна кніга — «Шэрая». Яе вырашылі выдаць Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Таварыства беларускай школы імя Б. Тарашкевіча.

У выданне, як напісана ў адпаведнай пастанове гэтых арганізацый, «будуць заносіцца прозвішчы і факты па знішчэнню беларускіх школ, класаў, дзіцячых садоў, дыскрымінацыі беларускай мовы». Дакументы і матэрыялы, што будуць змяшчацца ў кнізе, збіраюцца з перыядычнага друку...

Магчыма, пагроза быць «увекавечаным» у «Шэрай кнізе» спыніць абыякавых? Перспектыва паўстаць перад судом нашчадкаў у такім абліччы — справа не дужа прыемная.

Ці дасць плён выданне «Шэрай кнігі», ці спыніць яна працэс манкуртства ў грамадстве — пакажа час... Пакуль выданне яе толькі ў праекце, а фактаў, якія можна змясціць у ёй, шмат і з кожным днём большае.

**Гражына КАВАЛЕЎСКАЯ.**

## НА ЭКРАНЕ — ФІЛЬМЫ ПОЛЬШЧЫ

**Інстытут Польшчы ў Мінску і кінатэатр «Перамога» рыхтуюць паказ фільмаў вядомага польскага сцэнарыста, рэжысёра і аператара Яна Якуба Кольскага.**

Адкрываецца паказ мастацкай кінакарцінай «Яньце Воднік», дзе расказваецца аб чалавеку, які валодае дзіўнай уласцівасцю... рабіць цуды. Аднак пагоня за славай не прыносіць яму шчасця, і герой страчвае прыроды дар. Але...

Беларускія гледачы змогуць убачыць мастацкую карціну «Цудоўнае месца». У цэнтры кінанавелы — яркая і загадкавая гісторыя кахання маладога каталіцкага ксяндза да прыгожай афіцыянткі.

У рамках паказу таксама будзе дэманстравацца мастацкая стужка Яна Кольскага «Паграбек». Паграбек і яго жонка Кусцічка адвозяць памерлых жывёл на адведзеныя спецыяльна для гэтага могілкі, тым самым зарабляючы сабе на жыццё. Усё было б добра, але вось аднойчы...

Закрые праграму паказу кінастужка «Пахаванне бульбы». Тут расказваецца аб жыцці старога Мацея, яўрэя, які вярнуўся з нямецкага канцлагера. Ён натрапіў на незразумелую варожасць аднавяскоўцаў. Толькі праз некаторы час Мацей пачынае разумець сапраўдную прычыну гэтай варожасці.

Фільмы можна паглядзець у кінатэатры «Перамога»: «Яньце Воднік» — 17 ліпеня, «Цудоўнае месца» — 18 ліпеня, «Паграбек» — 19 ліпеня, «Пахаванне бульбы» — 20 ліпеня.

Без сумнення карціны заслугоўваюць дастойнай увагі з боку гледачоў і многім запомняцца надоўга.

**Раман КАРОТКІ.**

**Уладзімір РЫЖАНКОЎ,**
**міністр спорту і турызму РБ,**
**прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта**

*НАСУСТРАЧ АЛІМПІЯДЗЕ*

Atlanta 1996

# «Дзяржава выканала перадалімпійскія абяцанні. Цяпер слова — за спартсменамі»

***Заўтра на алімпійскім стадыёне ў Атланце адкрываюцца XXVI Летнія Алімпійскія гульні, у якіх прымуць удзел спартсмены са 197 краін свету. Сярод шукальнікаў алімпійскага шчасця — і беларускія «летнікі» на чале са сцяганосцам, кідальнікам молата Ігарам Астапковічам. Узначальваць нашу дэлегацыю будзе прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Рыжанкоў. Напярэдадні яго адлёту за акіян карэспандэнт «Звязды» задаў некалькі пытанняў.***

**— Уладзімір Мікалаевіч, з якім настроем вы накіроўваецеся ў Атланту?**

— У выдатным настроі, бо яўна бачу плён сваёй працы. У асноўным уся праграма, якая была намечана, нашымі спартсменамі выканана. Нягледзячы на складаныя эканамічныя ўмовы, дзяржава змагла знайсці сродкі для паўнацэннай падрыхтоўкі беларускіх алімпійцаў. Думаю, што гэта павінна неяк падштурхнуць спартсменаў...

**— На здзяйсненне подзвігаў?**

— Ну, навошта такія гучныя словы. Будзем казаць так: на дасягненне высокіх вынікаў.

**— На ваш погляд, перадалімпійскі прыём у Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі паспрыяе гэтаму?**

— Я ў гэтым упэўнены, бо ў такія хвіліны дакладна адчуваеш адказнасць за краіну, якую ты прадстаўляеш, і адначасова ўпэўнены, што за цябе хвалююцца, перажываюць, клапоцяцца.

**— Уладзімір Мікалаевіч, акрамя дзяржавы, хто-небудзь удзяліў увагу нашым алімпійскім надзеям?**

— Я так разумею, што пытанне пра спонсараў НАКа. Яны ёсць. У першую чаргу мне хочацца падзякаваць іспанскай фірме «Kelme»: яна «экіпіравала» спартсменаў, як кажуць, з ног да галавы. Акрамя таго, Бабруйскі гарбарны камбінат бясплатна забяспечыў усю алімпійскую дэлегацыю добротным абуткам. У Дзяржынску пашыты кашулі, Адміністрацыя Прэзідэнта паклапацілася аб парадных касцюмах. Наогул, фінансавая дапамога прыходзіла з розных фірмаў і арганізацый. Гэта — «Coca-Cola», «Беларускалій», «Камунарка». Я павінен сказаць, што да цяперашніх гульняў адчуваецца зацікаўленасць многіх людзей. Напярэдадні адлёту паступалі дзесяткі званкоў з пажаданнямі, каб беларуская каманда выступіла дастойна.



**— Трэба меркаваць, што вы іх «супакоілі» запэўненнямі?**

— Ведаеце, ніколі сабе не дазваляю даваць пустыя абяцанні, нават калі вельмі хочацца гэта зрабіць.

**— Уладзімір Мікалаевіч, думаю, няварта паўтарацца пра колькасны састаў афіцыйнай дэлегацыі — гэтая лічба ўжо неаднаразова ўказвалася ў сродках масавай інфармацыі. А я вось пра «якасны» састаў хачу запытацца: сярод спартсменаў, трэнераў, дактароў, журналістаў будуць людзі з урада?**

— Прадстаўнікоў урада не будзе на Алімпіядзе.

**— Да Атланты, акрамя як самалётам, нічым хутка не дабярэшся. Якія авіякампаніі будуць задзейнічаны ў перавозцы беларускіх алімпійцаў?**

— Асноўная нагрузка на пералёт нашай дэлегацыі ў ЗША ляжа на польскую кампанію «Lot». Праўда, задзейнічана ў абслугоўванні беларусаў на міжнародных авіялініях да Атланты і вядомая ў свеце «Luftgansa».

**— Уладзімір Мікалаевіч, ведаю, што вы не любіце рабіць прагнозы, тым больш перад Алімпіядай. І ўсё ж, як вы ўжо сказалі, людзі хочуць ведаць, на што яны могуць разлічваць?**

— Вы мяне проста вымусілі пайсці на такі крок — даць прагноз. Шчыра скажу, што па патэнцыялу мы можам разлічваць на заваяванне атлетамі Беларусі 12—15 медалёў рознай вартасці. Але гэта толькі меркаванні з пункту погляду спартыўнай логікі. Аднак спорт, як вядома, рэч непрадказальная. Тут усё можа здарыцца. Многае будзе залежаць ад фізічнай загартаванасці, маральна-псіхалагічнай устойлівасці і некаторых іншых фактараў, на якія зараз паўплываць наўрад ці зможам.

Нашай справай, справай дзяржавы было забяспечыць нармальную падрыхтоўку спартсменаў да галоўных стартаў чатырохгоддзя. Паўтаруся, што з гэтай задачай дзяржава справілася. А таму апошняе слова за спартсменамі. Хацелася б, канешне, каб яно атрымалася гучным і было пачута ва ўсім спартыўным свеце.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ЦІ МОЖА БЛЯШАНКА ЗАМЕЖНЫХ КАНСЕРВАЎ ВЫКЛІКАЦЬ ЭПІДЭМІЮ?

**Скандалы, што час ад часу ўспыхваюць у далёкім і блізкім замежжы з прадуктамі харчавання, раз-пораз закранаюць і нашу грамадскасць. Апошні яскравы прыклад — хвароба «шалёных кароў» у Вялікабрытаніі, у выніку якой было забаронена ўвозіць з гэтай краіны ў Беларусь ялавічыну і прадукты яе перапрацоўкі. Але гэта тычыцца буйных паставак прадукцыі. Не сакрэт, што многім зараз з-за мяжы дасылаюць пасылкі, у тым ліку і з прадуктамі харчавання. Ці не існуе тут пагрозы для здароўя і жыцця людзей?**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік мінскага пагранічнага кантрольнага ветэрынарнага пункта Міхаіл Крывашэй, усё, што ідзе да нас з-за мяжы, праходзіць строгі кантроль (у дзень гэта 20—100 пасылак па г. Мінску). Усе харчовыя прадукты, якія не маюць сертыфіката якасці, адпраўляюцца назад. Такім чынам за паўгоддзе было вернута мясных і малочных прадуктаў: у Англію — 4 кілаграмы, Італію — каля 4 кілаграмаў, Германію — больш за 11, Аўстрыю — пяць з паловай кілаграмаў, Ізраіль — 400 грамаў прадуктаў. Як правіла, гэта мяса, каўбасы, сыры, кансервы. Праверка прадуктаў харчавання, якія ідуць з-за мяжы, звязана з выяўленнем у той ці іншай краіне якога-небудзь захворвання. Напрыклад, у той жа Вялікабрытаніі — хваробы «шалёных кароў», у Аўстрыі — чумы свіней, Германіі — таксама хваробы свіней і гэтак далей.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## МЯСА НЕ ЕШ. ПЕРСІКІ ЖУЙ, САЛЕННІ ГАТУЙ...

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 17.07.96 г.**

| | |
|---|---|
| **Мяса (кг):** | |
| свініна | 30—60 |
| ялавічына | 25—50 |
| бараніна | 33—60 |
| цяляціна | 30—60 |
| куры | 29—34 |
| сала свежае | 22—30 |
| сала салёнае | 25—45. |
| **Яйкі** птушкафабрыкі (1 дзес.) | 9,5—10,5. |
| Яйкі хатнія | 16—18. |
| **Алей** | 13—15. |
| **Мёд** | 60—70. |
| **Цукар** | 8—9,5. |
| **Малочныя прадукты:** | |
| малако (л) | 7,5—8,5 |
| тварог (кг) | 18—25 |
| смятана (кг) | 22-28 |
| масла | 40—45. |
| **Агародніна (кг):** | |
| капуста свежая | 9—11 |
| морква | 10—15 |
| агуркі свежыя | 6—8 |
| таматы | 20—30 |
| перац салодкі | 35—50 |
| цыбуля зялёная | 8—10 |
| салата | 6—8 |
| пятрушка | 10—12. |
| **Садавіна (кг):** | |
| яблыкі | 10—40 |
| грушы | 20—35 |
| клубніцы | 25—50 |
| чарніцы: 1 кг — | 11—14 |
| 1 шклянка — | 2 |
| суніцы: 1 кг — | 45—50 |
| 1 шклянка — | 9 |
| чарэшня | 20—40 |
| абрыкосы | 16—25 |
| персікі | 20—40 |
| ківі (шт.) — | 4—6 |
| вінаград | 50—75 |
| кавуны | 13—25 |
| ананасы | 30—55 |
| апельсіны | 14—20 |
| лімоны | 30—35 |
| бананы | 14—16. |
| **Кветкі (шт.):** | |
| гваздзікі | 2—15 |
| ружы | 5—35 |
| гербера | 15. |

Павышэнне цэн на мясную прадукцыю ў апошнія два тыдні ў сярэднім на 3—5 тыс. рублёў — асноўная навіна галоўнага харчовага рынку сталіцы. Трэба канстатаваць, што малочныя прадукты таксама падаражэлі: малако — на 2,5—3 тыс. руб., смятана — на 2—4 тыс. рублёў. І што самае сумнае — рост цэн на цукар у самы сезон нарыхтоўкі варэння на 1—1,5 тыс. рублёў. Затое, як і павінна быць летам, садавіна і гародніна значна таннее: агуркі — на 3—5 тыс. руб., таматы — на 5—10 тыс. руб., салата — на 4—6 тыс. руб., чарніцы — на 5 тыс. руб., суніцы — на 5—10 тыс. руб. і г. д. Цэны на паўднёвыя персікі і абрыкосы становяцца ўсё больш даступнымі для нашага пакупніка...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

# ЧЫЯ СТАЛІЦА ДАРАЖЭЙШАЯ

**Еўрапейскае статыстычнае агенцтва рэгулярна публікуе рэйтынгавыя табліцы сталіц свету. Нядаўна былі распаўсюджаны чарговыя даныя.**

У гэты спіс на гэты раз былі ўключаны 104 сталіцы з розных кантынентаў. Ацэнка па традыцыі робіцца па чатырох паказчыках: сутачнае пражыванне ў 4-5-зоркавым атэлі, дзве паездкі ў таксі, адзін тэлефонны званок у сталіцу Еўропы — Брусель і купля адной саліднай газеты. У рэйтынгах мінулых гадоў першае месца па дарагавізне жыцця моцна ўтрымлівала японская сталіца — горад Токіо, але апошнім часам гэтае вельмі сумніўнае лідэрства перахапіла Масква, дзе за пералічаныя паслугі трэба выкласці з кашалька не менш як 549 долараў.

Што датычыць беларускай сталіцы, то калі вы захочаце выканаць у нас прапанаваную праграму па поўным аб'ёме, давядзецца раскашэліцца на нейкія 146 долараў: Мінск займае пакуль у гэтым спісе ганаровае 104-е месца.

Думаецца, замежным бізнесменам і інвестарам варта задумацца над гэтай акалічнасцю.

**Падрыхтаваў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**




## У РУКІ ТРАПІЎ ФАЛЬШЫВЫ ДОЛАР

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у першым паўгодзі 1996 года касавымі работнікамі ўстаноў Нацбанка і камбанкаў Беларусі выяўлена 128 выпадкаў здачы фальшывых банкнот.**

Самай распаўсюджанай грашовай адзінкай, якую падрабляюць, сталі долары ЗША. Лідэрамі фальшывых грошай з'яўляюцца 100-доларавыя купюры — 80 выпадкаў, потым 50$ — 14 выпадкаў, 20$ — 11, 10$ — 1. Сем разоў фальшываманетчыкі падраблялі нямецкія маркі ў 100 DM і 8 разоў расійскія рублі вартасцю 50 тысяч рублёў. Усяго па разу былі выяўлены фальшывыя купюры англійскіх фунтаў стэрлінгаў, французскіх франкаў, іспанскіх песет і... разліковых білетаў Беларусі.

Характэрна, што фальшывыя банкноты ў асноўным выраблялiся з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі шляхам ксеракапіравання ці частковай падробкі (дамалёўкі ці падклейкі нулёў). Вызначыць такія фальшыўкі работнікам банкаў асаблівай цяжкасці не ўяўляла. Разам з тым у 26 выпадках былі выяўлены так званыя «суперпадробкі». Імі аказаліся стодоларавыя банкноты ЗША. Для іх вызначэння спатрэбілася павышаная ўвага і скрупулёзнае вывучэнне некаторых прыкмет абароны.

**Сяргей КУРКАЧ.**



**У СВЕЦЕ**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● НА НАЗНАЧЭННІ РАДЗІОНАВА МІНІСТРАМ АБАРОНЫ РАСІІ НАСТАЯЎ ЛЕБЕДЗЬ**

Новым міністрам абароны Расіі назначаны генерал-палкоўнік Ігар Радзіонаў. У апошні час Радзіонаў узначальваў акадэмію генеральнага штаба. Яго кандыдатуру на пасаду міністра абароны актыўна падтрымліваў сакратар Савета бяспекі Аляксандр Лебедзь.

**● ЗНАЙШЛІ ЖАДАЮЧАГА АТРЫМАЦЬ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ**

«Знойдзены важны сведка па справе аб выбухах у маскоўскіх тралейбусах», заявіў дырэктар федэральнай службы бяспекі Мікалай Кавалёў. У інтэрв'ю журналістам Кавалёў сказаў, што размова ідзе пра чалавека, які бачыў злачынцаў падчас закладкі аднаго з выбуховых прыстасаванняў. Нагадаем, што таго, хто дапаможа арыштаваць злачынцаў, чакае ўзнагарода.

**● БОМБА Ў АЭРАПОРЦЕ АКАЗАЛАСЯ «ВУТКАЙ»**

Праваахоўныя органы не выявілі выбуховага прыстасавання ў Маскоўскім аэрапорце Унукава. Пра гэта паведамілі агенцтвы ІТАР-ТАСС і Інтэрфакс. Аднаўлена звычайная праца аэрапорта.

У 6 гадзін раніцы ў службу 02 патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што ў будынку праз 40 хвілін адбудзецца выбух. Пасля гэтага пасажыры і персанал былі эвакуіраваны і пачаўся пошук выбуховага прыстасавання. Вылеты самалётаў з Унукава былі затрыманы, пасажыры прыбыўшых авіялайнераў чакалі на борце вынікаў праверкі будынка.

**● ПРЭМ'ЕР УКРАІНЫ ПРАКАМЕНЦІРАВАЎ ЗАМАХ НА ЯГО ЖЫЦЦЁ**

Прым'ер-міністр Украіны Павел Лазарэнка лічыць, што тэракт, які правялі супраць яго раніцай 16 ліпеня, з'яўляецца «добра спланаванай акцыяй, накіраванай на фізічнае знішчэнне», і «толькі выпадковасць выратавала яго ад трагічных наступстваў». Падчас сустрэчы з журналістамі пасля паездкі ў Данецкую вобласць Лазарэнка сказаў, што гэты акт, безумоўна, быў звязаны толькі з адным — вымусіць прэм'ера адмовіцца ад паездкі ў Данецкую вобласць. Па яго словах, «канкрэтная пастаноўка пытання аб мерах па выхаду з крызіснага становішча (у шахцёрскім рэгіёне) вымусіла крымінальныя структуры арганізаваць замах з выкарыстаннем самых сучасных метадаў».

**● ЛЕВІ МАЕ НАМЕР СУСТРЭЦЦА З АРАФАТАМ**

Міністр замежных спраў Ізраіля Леві паведаміў, што ў бліжэйшы час, магчыма, сустрэнецца з кіраўніком Палесцінскай аўтаноміі Арафатам. Калі сустрэча адбудзецца, яна будзе першым кантактам на такім узроўні паміж прадстаўнікамі Ізраіля і Палесцінскай аўтаноміі з моманту прыходу да ўлады ўрада Нетаніягу.

Некалькі дзён таму Арафат адмовіўся сустрэцца са старэйшым палітычным дарадцам прэм'ер-міністра Ізраіля.

**● У САФІІ ЎЗАРВАЛІ ПАЛАЦ З'ЕЗДАЎ**

Учора ноччу ў цэнтры Сафіі прагрымеў моцны выбух. Бомба, падкладзеная ў падвальнае памяшканне балгарскага палаца з'ездаў, нанесла вялікую матэрыяльную шкоду. Чалавечых ахвяр няма. Вядзецца следства.

**● ХОЛБРУК БУДЗЕ ДАМАГАЦЦА АДСТАЎКІ КАРАДЖЫЧА І МЛАДЗІЧА**

Пасрэднік ЗША ў былой Югаславіі Холбрук сустрэўся ўчора ў Бялградзе з прэзідэнтам Сербіі Мілошавічам. Мэта трохдзённай паездкі Холбрука ў былую Югаславію — дабіцца адстаўкі лідэраў баснійскіх сербаў Караджыча і Младзіча, якіх абвінавацілі ў ваенных злачынствах. У інтэрв'ю журналістам Холбрук сказаў, што адстаўку Караджыча і Младзіча павінен забяспечыць Мілошавіч. «Калі Мілошавіч адмовіцца зрабіць гэта, — сказаў Холбрук, — ён парушыць Дэйтанскія мірныя пагадненні».

**● СКЛАД ЗБРОІ ЗНАЙШЛІ Ў БАЛЬНІЦЫ**

Італьянская паліцыя выявіла ўчора ў Палерма склад зброі, які належаў аднаму з сіцылійскіх мафіёзных кланаў. Ракетныя ўстаноўкі, супрацьтанкавыя гранатамёты, вялікая колькасць узрыўчаткі былі знойдзены ў падвале адной з гарадскіх бальніц. Паведамляецца таксама пра арышт аднаго з кіраўнікоў мясцовай мафіі Вінчэнца Сенакоры.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці падабаецца вам, калі не цячэ вада з крана? Кліентам кампаніі «Саут Уэст Уотер» гэта вельмі не падабаецца. З таго часу як водазабеспячэнне ў Англіі было перададзена ў прыватныя рукі, колькасць нараканняў з боку насельніцтва ўзрасла ў геаметрычнай прагрэсіі, і асабліва ў адрас гэтай кампаніі. Перапужаныя «народным гневам», яе ўладальнікі абавязаліся зараз выплачваць па 10 фунтаў стэрлінгаў кожнаму кліенту за кожны дзень, калі з-за адсутнасці вады ў кране ён аказваецца на «сухім законе». І яшчэ кліенты маюць права дадаткова запатрабаваць 25 фунтаў, калі двойчы на працягу 28 дзён напор вады ў кране будзе слабей нармальнага.

***ІТАР-ТАСС.***

*Пад канвоем прывезлі ў Ачыцкі народны суд настаўніцу Афанасьеўскай сярэдняй школы з 33-гадовым ахоўнікам Н. На адным пасяджэнні суда яна павінна была выступаць у якасці сведкі. Аднак павестку не атрымала і таму не прыйшла. Прама ў школу быў высланы нарад міліцыі. На вачах у дзяцей і настаўнікаў педагога ўсадзілі ў закратаваную машыну. Пры гэтым ёй паабяцалі надзець наручнікі. Якраз у гэты дзень заслужаную настаўніцу павінны былі праводзіць на пенсію.*

***ЕАН.***

**ЛІСТ АД СУАЙЧЫННІЦЫ З ЭСТОНІІ**

# «ДЛЯ МЯНЕ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ — ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА КВАТЭРУ»

**ПРАЙШОЎ** той час, калі дзяржава думала пра чалавека, клапацілася пра яго. Цяпер яна толькі стварае ўмовы, спрыяе таму, каб чалавек сам мог паклапаціцца аб сабе, сам думаў, штосьці вынаходзіў, сам будаваў сабе лепшае жыццё, увесь час рухаўся. Мне ўсё часцей здаецца, што ў гэтым ёсць нейкі сэнс. Так, гэта цяжка, адказна, патрабуе немалых сіл і здароўя. Але ж гэты пошук і змаганне спрыяюць і развіццю нашай трываласці, вынаходлівасці. Гэта нейкая праверка сябе. Гледзячы на маладых, бачу, што ім у нейкім сэнсе прасцей: гэта пачатак іх жыцця. Яны лягчэй успрымаюць перамены, выкарыстоўваюць іх на сваю карысць. Нам цяжэй. У нас было раней усё па-іншаму. Я, напрыклад, не магу, ведаючы ранейшае жыццё і цяперашняе, даць нейкую адназначную ацэнку, сказаць, якое з іх лепшае. Лічу, што ў кожнага варыянту ёсць свае плюсы і мінусы. Яно рознае, наша жыццё. Але ж, паўтаруся, для чалавека цяпер больш умоў, каб ён праявіў сябе, каб яго мозг увесь час штосьці шукаў, вынаходзіў і знаходзіў. У гэтым бачу нейкую радасць, поспех, перамогу — цяжкую, складаную і таму вельмі прыемную для свайго «Я».

Жыццё ідзе вельмі хутка таму, што сталі старэйшымі, таму, што стала цяжэй, больш клопатаў, больш грошай трэба. Узніклі новыя праблемы: нацыянальныя, моўныя, сацыяльныя. Але ж жыццё і навучыла нас змагацца з цяжкасцямі, вырашаць новыя праблемы: здалі экзамен на моўную катэгорыю, здалі паперы на від на жыхарства — увесь час нейкае змаганне, змаганне за тое, каб мець працу, каб мець больш грошай, каб заплаціць за жыллё. Але разумееш: побач з гэтым змаганнем жыве і надзея на лепшае, трывога — а што будзе, калі не атрымаю таго віда, пражыўшы тут амаль 23 гады! Дзіўноснае пачуццё, што тут усё не маё і адначасова маё, роднае. Такое ж бывае і на Беларусі, дзе, здаецца, усё знаёмае і чужое. Магчыма, гэта пачуццё знаёма ўсім, хто нарадзіўся і нейкі час жыў у адным месцы, а пасля ў другім: нейкае раздваенне, ваганне, пошукі, смутак.

Здаецца, што да новых умоў большасць людзей тут неяк прыстасавалася. Хаця бывае наадварот.

**СЯМ'Я.** У нас у сям'і чатыры чалавекі. Мы з мужам працуем у сістэме міністэрства сацыяльных спраў, дзяржаўнай установе, дзе мала плацяць. Таму прыходзіцца мець дадатковую работу. Многія нашы калегі таксама «круцяцца», як могуць. Дарэчы, даход маёй сям'і — каля 300 долараў у месяц.

Сын — студэнт, вучыцца ў тэхнічным універсітэце, а дачка ў школе. Сын атрымлівае невялікую стыпендыю, а ў вольны час дзе можа падзарабляе. Маем двухпакаёвую кватэру, амаль 47 кв.м. Гэта агульная плошча (разам з балконам), за якую плацім каля 100 долараў у месяц. Усім жыхарам незразумела, чаму так атрымліваецца, што кватэра прыватызаваная, а плацім і за метры, за сваю кватэру, якую выкупілі гадамі свайго працоўнага стажу, так званымі картамі народнага капіталу. Каб перастаць плаціць за кватэру, трэба арганізаваць жыллёвае таварыства, тады дом ужо не будзе залежаць ад ЖЭУ, а клопаты аб яго эксплуатацыі лягуць на плечы самога таварыства. Дык вось, у нашым доме ўжо 4 разы на працягу 6-7 месяцаў збіралі сход жыхароў, але ж гэта аб'яднанне так і не зрабілі, таму што большасць дамоў ужо старыя (нашаму каля 20 год), усе сістэмы спрацаваліся. Мэтазгодным ствараць таварыства жыхары нашага дома лічаць толькі пасля таго, як усё будзе адрамантавана і заменена ЖЭУ, а не рабіць гэта пазней са сваёй кішэні. А за камунальныя паслугі ўсё роўна трэба плаціць.

**ДЛЯ МЯНЕ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ — ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА КВАТЭРУ**, бо згодна з Жыллёвым законам Эстоніі ўлады маюць права, калі жыхары не плацяць за кватэру, праз 3 месяцы высяліць іх на вуліцу. Так, нядаўна па радыё чула, што ў суд за апошні час перададзена каля 30 спраў на высяленне. І гэта не толькі п'яніцы, але і прыстойныя, інтэлігентныя людзі — хто не змог неяк прыстасавацца. Даводзіцца адмаўляць сабе ў многім, каб толькі аплаціць кватэру, бо на квітках сума ўсё расце. За ліфт бяруць грошы не з колькасці людзей, што ім карыстаюцца, а з плошчы кватэры. І за вываз смецця не з душы, а з тых жа «метраў». З 1 лютага зноў павысілі цэны на ваду і вываз смецця. У мяне такое пачуццё, калі трымаю чарговы квіток, што здзерлі сем скур і бяруцца за восьмую. Пры высяленні могуць прапанаваць горшае жыллё, без умоў і г. д.

Хвалебныя размовы ўладаў аб эканамічных поспехах краіны не адпавядаюць сапраўднаму становішчу. Неяк на вочы трапілі такія лічбы, што ў розных раёнах горада колькасць даўжнікоў вагаецца ад 20 да 30 працэнтаў і амаль што няма дамоў, у якіх да 10 сем'яў (у лепшым выпадку) не могуць плаціць за кватэру. Праўда, існуюць нейкія льготы пры аплаце, напрыклад, пенсіянерам, мнагадзетным сем'ям. Нейкае зніжэнне можа быць, калі квартплата вышэй 1/3 агульнага даходу сям'і, але ж гэтага амаль немагчыма дабіцца, вельмі ўжо неахвотна ЖЭУ ідуць на такое.

**КОЛЬКАСЦЬ БАМЖОЎ РАСЦЕ**. Урачы кажуць, што гэта адны з самых цяжкіх пацыентаў: яны маюць цэлы букет хваробаў.

Грошай на сацыяльныя патрэбы не хапае, і дапамога бедным вельмі рэдкая. Так, на каляды на працягу 4 дзён раздавалі бясплатны суп. «Чырвоны крыж» праяўляе таксама нейкія клопаты аб гэтых людзях — усяго ў Таліне каля 10 тысяч бяздомных (а жыхароў больш за 400 тысяч). Да гэтага часу ў горадзе няма ніводнага начлежнага дома. У прэсе пытанне гэта часта абмяркоўваецца.

**СУМНЫ ФАКТ — РОСТ СМЯРОТНАСЦІ**: за год яна вырасла амаль што на 1000 чалавек, асабліва сярод мужчын. На першым месцы — сардэчна-сасудзістыя захворванні. Па самых сціплых падліках, расходы на пахаванне складаюць каля 450—500 долараў. Жанчыны ўсё менш раджаюць. У 1995 г. з'явілася каля 13.700 дзяцей, у той час як у 1988 г. — 25.049, пасля чаго пайшло зніжэнне. Змяншаецца і колькасць шлюбаў, а разводаў — расце. Раней у цэнтральным раддоме прымалі ў суткі каля 10 родаў, цяпер жа — 3-4. Хаця шмат станоўчых перамен тут адбылося: палепшыліся ўмовы, з'явілася мноства сучаснай апаратуры, разам з парадзіхай можа быць і муж. Бальніца аказвае і шэраг платных паслуг. Жанчына можа пасля родаў размясціцца ў асобнай палаце разам з дзіцем і роднымі, і каштуе гэта каля 6 долараў у суткі. А суперлюкс — з халадзільнікам, тэлевізарам, стэрыльнай ваннай з душам і іншым — каля 30 долараў.

**НЕ ВЕДАЮ, ЦІ ЁСЦЬ У БЕЛАРУСІ ТАКАЯ З'ЯВА, ЯК БАЛЬНІЧНАЯ КАСА**. Прадпрыемствы пералічваюць (у тым ліку і прыватныя) кожны месяц на яе рахунак нейкі працэнт (дакладна не ведаю які), а ўсе работнікі атрымліваюць карты бальнічнай касы. Калі прыходзіш да ўрача, то адразу пытаюцца, ці маеце карту бальнічнай касы. Калі маеш, то за прыём ці выклік плаціш 5 крон (каля 0,5 долара). Калі ж не — тады ўсё, у тым ліку і ўсе абследаванні трэба аплаціць, і вельмі дорага, са сваёй кішэні. А вось у стаматолага якасную пломбу ў любым выпадку трэба аплаціць.

Пенсіянеры атрымліваюць медыцынскую дапамогу бясплатна. Яны маюць ільготы і на лекі — аплачваюць толькі нейкую частку. Таксама і дзеці да 12 гадоў. Калі ж ты, не дай Бог, захварэў, то толькі вельмі дарагія лекі па бальнічнай карце будуць крыху танней. Так, хварэць у нас вельмі дорага. Ды бальнічны ліст аплацяць толькі ад 60 да 80 працэнтаў. Толькі па догляду дзіцяці — 100 працэнтаў. Грошы бальнічнай касы ідуць на тое, каб закупіць новыя прыборы, абсталяванне, але ж іх не хапае. І становішча ў бальніцах усё роўна цяжкае. Многага па-ранейшаму не хапае. Медыцына фінансуецца за кошт бальнічнай касы. Але ў Эстоніі існуюць сотні малых і вялікіх фірмаў, якія не выконваюць закон аб страхавой медыцыне. Яны не пералічваюць грошы, і доўг іх расце, а сродкаў медыцыне не хапае.



Вось такое яно, наша жыццё ў Эстоніі. Думаю, яно адрозніваецца ад вашага галоўным чынам тым, што вы жывяце на сваёй роднай зямлі. З гадамі цяжка нешта мяняць, лягчэй, мабыць, прыстасавацца. Але ж галоўнае тое, што ў нас аднолькавыя пачуцці і жаданні, адна зямля, неба і Бог, і ўсюды ідзе змаганне, каб наш такі нядоўгі шлях на зямлі пражыць цікавей, ярчэй для сябе і тых, хто ідзе побач.

**Ядвіга ХАРЫТОНАВА.**

Талін.

# ДЗЕ НАШ «ПАСАД МІЖ НАРОДАМІ»?!

**У чэрвені ў Стамбуле (Турцыя) прайшла другая Канферэнцыя ААН па населеных пунктах, шырока вядомая ў свеце пад назвай Хабітат. Адзіным прадстаўніком ад грамадскіх арганізацый суверэннай Рэспублікі Беларусь на ёй была прафесар Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, доктар архітэктуры, акадэмік-сакратар Беларускай акадэміі архітэктуры Ірына ЮДА. З ёй гутарыць журналіст Анатоль МЯСНІКОЎ.**

**— Хабітат у краінах Захаду вядома даволі добра, а вось у нас пра яе практычна мала хто і чуў. Давайце, Ірына Антонаўна, і пачнём са знаёмства з гэтай арганізацыяй.**

— Асноўная мэта Хабітата — Цэнтра ААН па населеных пунктах — заключаецца ў аказанні дапамогі ўрадам краін свету ў справе ўдасканалення працэсу развіцця гарадоў і кіравання імі, прадастаўленні грамадзянам магчымасці ўдзельнічаць у працэсе прыняцця рашэнняў на мясцовым узроўні, выпрацоўваць і ажыццяўляць наватарскія рашэнні праз супрацоўніцтва і партнёрства.

У цяперашні час амаль палавіна насельніцтва зямнога шара — гэта жыхары гарадоў; а ў адпаведнасці з прагнозамі ўжо ў 2025 годзе ў іх будуць пражываць звыш дзвюх трацей чалавецтва. Кожны тыдзень колькасць насельніцтва гарадоў зараз павялічваецца на адзін мільён чалавек.

Сёння гарады адыгрываюць надзвычай важную ролю ў працэсе развіцця чалавечай цывілізацыі. Яны прыцягваюць і будуць прыцягваць мігрантаў з сельскай мясцовасці, паколькі даюць магчымасць людзям палепшаць сваё жыццё ў сацыяльных і эканамічных адносінах. Менавіта гарады адкрываюць перад людзьмі магчымасці знайсці сабе занятак па душы і прызванню, мець прыстойнае жыллё і камунальныя выгоды і г. д.

Разам з гэтым надзвычай імклівыя тэмпы росту колькасці гарадскога насельніцтва вельмі часта прыводзяць і да сацыяльнай напружанасці. Вось красамоўны і, разам з тым, трывожны факт: амаль 60 працэнтаў гараджан — бедныя. Нягледзячы на пастаянны рост аб'ёмаў інвестыцый, звыш адной трэці насельніцтва гарадоў свету не забяспечана жыллём, якое б адпавядала элементарным нормам. Сорак працэнтаў гарадскіх жыхароў не маюць доступу да бяспечнай пітной вады ці да належных сродкаў санітарыі. У выніку хуткага росту і пагаршэння стану гарадскога асяроддзя не менш 600 мільёнаў чалавек ужо жывуць ва ўмовах, якія пагражаюць іх здароўю і жыццю наогул, пры гэтым амаль палавіна з іх — дзеці.

**— Прычым, наколькі мне вядома, гэтыя праблемы характэрны не толькі для слабаразвітых, а і для краін высокай цывілізацыі...**

— Вось іменна. Нявырашаныя пытанні ёсць сёння і ў іх. Аднак, нягледзячы на гэта, гарадам па-ранейшаму адводзіцца важная роля ў справе аховы глабальнага навакольнага асяроддзя. І не выпадкова Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі ў пасланні ўдзельнікам Хабітата II адзначыў: «Сустрэча на вышэйшым узроўні па праблемах гарадоў ахоплівае многія праблемы. Трэба будзе даць адказы на цяжкія пытанні. Як мы можам палепшыць кіраванне і фінансаванне населеных пунктаў? Якая патрэбна палітыка, каб палепшыць умовы абяздоленых людзей, сем'яў і абшчын? Як мы можам забяспечыць элементарныя гігіенічныя ўмовы ў гарадскіх раёнах, пазбягаючы ў той жа час нанясення доўгатэрміновых страт навакольнаму асяроддзю? Ці можам мы зрабіць, каб да нейкага канкрэтнага тэрміну ўсе былі б забяспечаны прыстойным жыллём? Што патрэбна зрабіць, каб змякчыць вынікі стыхійных бедстваў і войнаў? Ці можна разарваць ганебнае кола адчужэння, канфліктаў, разбурэнняў і няздольнасці да развіцця?» — такія рытарычныя і адназначныя пытанні паставіў гэты кіраўнік самай масавай і ўплывовай міжнароднай арганізацыі. І яны не могуць не выклікаць трывогі ў душы і сэрцы кожнага з нас.

**— Як і прынята ў цывілізаваным свеце, рабоце Хабітата II папярэднічала грунтоўная падрыхтоўка...**

— Напярэдадні яго прайшлі канферэнцыі па асобных праблемах гарадоў свету: па жыллю, стану навакольнага асяроддзя, ролі мясцовых абшчын і інш. І яны, і заключны форум пацвердзілі: урады павінны прызнаць той факт, што самі яны не змогуць забяспечыць патрэбаў свайго насельніцтва. Трэба заахвочваць удзел усіх суб'ектаў, пачынаючы ад звычайных гаспадарак і абшчынных арганізацый і заканчваючы прыватным сектарам і мясцовымі органамі самакіравання.

У ходзе падрыхтоўкі да канферэнцыі дзяржавы — члены ААН прадставілі даклады з выкладаннем нацыянальнага вопыту і перспектыўных накірункаў пераўтварэння навакольнага асяроддзя. Беларусь, у прыватнасці, прадставіла два даклады: афіцыйны дзяржаўны і падрыхтаваны па ініцыятыве Прадстаўніцтва ААН у нашай дзяржаве групай незалежных экспертаў...

**— Нацыянальным каардынатарам і кіраўніком якой былі вы?**

— Так, узначаліць гэту групу выпаў гонар мне.

**— Як у агульных рысах выглядаў ход канферэнцыі?**

— У рабоце форуму бралі ўдзел 2400 грамадскіх арганізацый са 154 краін свету. Колькасць удзельнікаў — каля 8 тысяч чалавек. Адны дзяржавы прадстаўлялі 3—5 чалавек, іншыя — 60—70. З Беларусі я была... адна. Цяжка (ды і немагчыма) было за ўсім пасачыць, шмат дзе папрысутнічаць: адначасова праходзілі ад 15 да 25 рознага роду мерапрыемстваў.

**— Ірына Антонаўна, якія, на вашу думку, асноўныя вынікі Хабітата II?**

— Свет яшчэ раз пераканаўся ў сур'ёзнасці і актуальнасці праблем, якія ставіць перад чалавецтвам Хабітат. Удзельнікі яшчэ раз пацвердзілі гатоўнасць і неабходнасць працаваць разам на карысць усіх народаў. Прадэманстраваны каштоўны вопыт адных дзяржаў, карысныя намеры другіх, выпрацаваны міжнацыянальныя падыходы і прапановы, адрасаваныя як урадам краін — членаў ААН, так і кіраўніцтву ААН у цэлым. Устаноўлены сотні і сотні кантактаў, дзелавых сувязей на будучае. Патрэбы людзей, перакананы ўдзельнікі Хабітата II, трэба бачыць штодзённа, у комплексе, імкнуцца рабіць усё, каб нявырашаных пытанняў станавілася ўсё менш і менш. Людзям патрэбна не толькі матэрыяльная і фінансавая падтрымка, а і маральная дапамога, навучанне майстэрству забяспечыць прыстойнае жыццё сабе і сваёй сям'і. Для ўсяго гэтага народам неабходна аб'ядноўвацца, перадаваць адзін аднаму свой вопыт, веды, навыкі.

Крыўдна, што Беларусь не змагла выкарыстаць магчымасць больш шырокага ўдзелу ў Хабітат II, хоць бы для таго, каб свет больш даведаўся аб існаванні на планеце маладой суверэннай дзяржавы — з яе праблемамі, клопатамі, нявырашанымі пытаннямі. Паверце, колькі сіл і энергіі прыйшлося аддаць, тлумачачы ўдзельнікам з самых розных краін свету тое, дзе Беларусь знаходзіцца, якія часіны яна перажывае, аб чым марыць, куды імкнецца... А колькі карыснага — паўтаруся — можна і трэба было ўзяць. Шкада, што наш народ і яго кіраўнікі чарговы раз праявілі пасіўнасць, ранейшыя рудыменты савецкага менталітэту, калі чалавек чакае: калі дадуць што-кольвечы па ліміту... Нежаданне рабіць што-небудзь самім і для сябе наўрад ці прывядзе калі-небудзь нас да лепшага жыцця, колькі б народ наш ні мітынгаваў, колькі б ні крытыкаваў — у кулуарах і адкрыта — свой урад, сваіх кіраўнікоў. Рана ці позна нам усё ж давядзецца шукаць «свой пачэсны пасад між народамі»...




## ПАЛІЦА Ў «НІВЕ»

**Багажны адсек у аўтамабілі нічым не закрыты зверху. Гэта не вельмі зручна. Паколькі аб'ём адсека ад падлогі да столі выкарыстоўваецца рэдка, а яшчэ радзей складваецца задняе сядзенне, мэтазгодна ўстанавіць за ім дэкаратыўную паліцу, якая закрывала б багажны адсек.**

Яе можна зрабіць складной, і яна лёгка дэманціруецца. Усе дэталі канструкцыі, акрамя крапёжных, — з дзюралюмінію. Агульны выгляд і асноўныя часткі яе паказаны на малюнку. Сама паліца робіцца з матавай меблевай фанеры таўшчынёй 12 мм і складаецца з дзвюх частак, злучаных пяццю невялікімі петлямі, замацаванымі з ніжняга боку кароткімі шрубамі. У пярэдняй часткі і па баках паліца прымацавана да канструкцыйных элементаў кузава пярэдняй паваротнай апорай 2 і бакавымі апорамі 6, звязанымі пярэднімі кранштэйнамі 5.

Вузел паваротнай апоры складаецца з лёгкага профілю 3 і трубы 4, злучаных паміж сабой чатырма коркамі 10 і вінтамі з паўкруглай галоўкай М6х16. У тарцы трубы ўстаўлены заглушкі 9, замацаваныя вінтамі М4х6 (8 шт.). У заглушкі ўкручаны восі 8.

Пярэднія кранштэйны 5 устаноўлены перад замковай часткай фіксатара спінкі задняга сядзення. Для гэтага з прывалачнага боку замковай часткі фіксатара зрэзаны цэнтрыруючыя выступы. Бакавая апора 6 злучана з кранштэйнам 5 вінтамі М4х6 (4 шт.) і ніжнім вушкам 7 упора задніх дзверцаў. Панель паліцы злучана з паваротнай апорай вінтамі М6х25 (4 шт.), а фіксуюць яе два спецыяльныя вінты 12, укручаныя ў разьбавыя ўтулкі 13. Самі ўтулкі прыкручаны да панелі кароткімі шрубамі. Каб фіксуючыя вінты не вывальваліся з дзірак бакавых апор, на іх надзеты кольцы 11 з гумавай трубкі.

Пры пагрузцы вялікіх рэчаў у багажны адсек, трэба выкруціць фіксуючыя вінты 12 і, злажыўшы палавінкі адну на другую, адкінуць паліцу да спінкі задняга сядзення. Каб выкарыстаць увесь аб'ём задняй часткі салона пры складзеным заднім сядзенні, паліцу разам з пярэдняй паваротнай апорай дэманціруюць, выкруціўшы спачатку восі 8.

Для асвятлення багажнага адсека можна ўстанавіць на адной з бакавых апор 6 такі плафон, як у салоне. Сілкаванне да яго праводзяць ад бліжэйшага задняга ліхтара.

Агульная вага канструкцыі ўсяго каля 6 кг.

***Малюнак: 1 — спінка задняга сядзення; 2 — паваротная апора; 3 — швелер; 4 — труба; 5 — кранштэйн (закругленні на контуру фіксатара); 6 — бакавая апора (правая паказана, левая — сіметрычна); 7 — ніжняе вушка ўпора задніх дзверцаў; 8 — вось паваротнай апоры; 9 — заглушка трубы; 10 — корак трубы; 11 — кальцо; 12 — вінт мацавання (фіксатар); 13 — разьбовая ўтулка. Штрыхавой лініяй паказаны контур унутраных панеляў кузава.***




## ВАКОЛ КАМЕРЫ

**Пашкоджанне аўтамабільнай камеры нярэдка звязана з разрывам у месцы далучэння вентыля.**

Каб аднавіць такую камеру, трэба зрабіць прэсформу з дзюралюмінію. Вентыль ачышчаюць ад старой гумы і абястлушчваюць, затым абмотваюць сырой гумай і ўстаўляюць у прэс-форму. Пасля гэтага дабаўляюць сырую гуму да запаўнення і шчыльна затыкаюць паперай дзірку ў вентылі з боку камеры, каб зберагчы яе ад зацёку гумы. З рамантуемай камеры патрэбна ачысціць гуму, што засталася ад былога вентыля, добра зачысціць вакол дзіркі і прыкласці да гэтага месца прадрыхтаваную прэс-форму. Камеру ў вулканізатары замацоўваюць так, каб вентыль знаходзіўся з боку награвальніка.

### Малюнак А

Працэс вулканізацыі — звычайны. Працягласць 30—40 хвілін. Пасля вулканізацыі паперу з вентыля прапіхаюць унутр камеры.

***На малюнку: 1 — папяровая затычка; 2 — пятка вулканізатара; 3 — камера; 4 — прэсформа; 5 — сырая гума; 6 — вентыль; 7 — награвальнік вулканізатара.***




Што рабіць, калі паміж самім вентылем і саском, у які ён умацаваны, утварылася ўцечка?

Многія, уздыхнуўшы, выкідваюць камеру. Гэта рабіць не трэба. Камеру можна адрамантаваць.

### Малюнак Б

Рамонт не патрабуе спецыяльных навыкаў і даступны кожнаму аўтааматару.

Трэба змазаць вонкавы бок саска гумавым клеем і наматаць тонкую капронавую нітку віток да вітка, як паказана на малюнку. Пры гэтым не зацягвайце нітку вельмі моцна, пакрыйце бандаж з ніткі двума слаямі гумавага клею. Рамонт закончаны. Гума саска шчыльна прыціснута да металу вентыля — герметычнасць адноўлена.

Памятайце, што агульная таўшчыня ніткі і клею не павінна перавышаць 0,2 мм. Інакш сасок не пройдзе ў дзірку дыска кола.

***На малюнку: 1 — месца ўцечкі; 2 — нітка; 3 — гумавы клей.***




# Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**18 ліпеня 1506 года** адбылася бітва паміж войскам Вялікага Княства Літоўскага на чале з М. Глінскім і крымскіх татар пад Клецкам. Татары былі разгромлены.

У тэты дзень **у 1730 годзе** нарадзіўся Ю. Катэнбрынг, беларускі і польскі пісьменнік, педагог, выкладчык паэтыкі і рыторыкі ў Нясвіжы, Гродне, Мінску, Полацку.

**18 ліпеня 1811 года** нарадзіўся Уільям Тэкерэй, славуты англійскі пісьменнік, аўтар такіх твораў, як «Кірмаш славалюбства» («Ярмарка тщеславия»), «Ньюкамы», гістарычных раманаў «Гісторыя Генры Эсманда», «Віргінцы».

**18 ліпеня 1853 года** нарадзіўся Хендрык Ларэнц, галандскі фізік, замежны член-карэспандэнт Пецярбургскай АН і ганаровы член АН СССР (1925 г.). Стварыў класічную электронную тэорыю, з дапамогай якой растлумачыў многія электронныя і аптычныя з'явы. Распрацаваў электрадынаміку рухомых асяроддзяў. Блізка падышоў да стварэння тэорыі адноснасці.

**18 ліпеня 1909 года** нарадзіўся Андрэй Грамыка, вядомы савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, міністр замежных спраў СССР у 1957—1985 гадах, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у 1985—1988 гадах.

**У гэты дзень у 1923 годзе** нарадзіўся вядомы расійскі паэт Яўген Еўтушэнка.

### Цікава

***Роўна год назад, у ліпені 1995 года, амерыканскія астраномы Алан Хэйл і Томас Бол, незалежна адзін ад другога, заўважылі ў сузор'і Стральца маленькую пляму святла, якая адсутнічала на зорных картах, — новую камету. Магчыма, яна акажацца самай яркай каметай.***

Калі ў кастрычніку мінулага года былі зроблены яе першыя здымкі, стала зразумела, што яна незвычайна яркая, г. зн. моцна адбівае святло Сонца, мацней, чым усе каметы, якія да гэтага часу, прынамсі, ў апошнія стагоддзі наведвалі ваколіцы нашага свяціла. Так, яна ў 250 разоў ярчэйшая, чым была ў апошні свой прылёт камета Галея на той жа адлегласці. Разлікі паказалі, што камета Хэйла-Бола наблізіцца да Сонца вясной 1997 года, і ў красавіку яе можна будзе ўбачыць.

### Новае

Аўстралійскія лесаводы вывелі пароду дрэў з выключна хуткім ростам. За першыя паўгода жыцця такое дрэва дасягае вышыні пяці метраў, а праз шэсць гадоў драўніна можа ісці ў вытворчасць, бо вышыня дрэва к гэтаму часу дасягае 12-13 метраў, а дыяметр ствала — паўметра.

А вось адна амерыканская фірма аб'явіла, што прымае на захоўванне пры тэмпературы мінус 150 градусаў Цэльсія пробы крыві катоў і сабак. У выпадку смерці хатняга любімца гаспадары могуць спадзявацца, што поспехі геннай інжынерыі праз пару дзесяткаў гадоў дазволяць на аснове ДНК, вылучанай з замарожаных клетак крыві, вырасціць дакладную копію любімага чатырохногага.

### Неверагоднае, загадкавае

***Дзесяткі людзей загінулі страшнай смерцю з-за таго, што праігнаравалі 114-гадовае праклянцце — дакрануліся да гэтага дрэва.***

— Ні адзін з тых, хто асмеліўся дакрануцца да ствала ці сарваць галінку з яго, не жыве доўга, каб расказаць пра гэта, — сказаў бельгійскі гісторык Міклак Ван Ламерс. У яго запісах налічваецца 52 чалавекі: сярод іх — 12 дзяцей, 26 мужчын і 14 жанчын. Усе яны памерлі на працягу 48 гадзін пасля таго, як мелі хоць нейкі кантакт з гэтым дрэвам.

Усё пачалося з таго, што нейкі Карл дэ Баст, абвінавачаны ў сатанізме, быў усцягнуты на дрэва, і яго лінчаваў раз'юшаны натоўп 16 мая 1880 года. Дэ Баст крычаў аб сваёй невінаватасці да канца, і перад самай смерцю прашаптаў праклянцце кожнаму, хто дакранецца да гэтага дрэва.

З таго дня ўсе, хто не ведаў пра гэта або ігнараваў праклянцце, памерлі пры загадкавых абставінах. Па меншай меры, апошнія шэсць ахвяр памерлі, спрабуючы ссекчы дрэва.

— Агонію іх апошніх гадзін на зямлі можна было бачыць па масцы жаху на іх тварах, — сказаў Ван Ламерс. — Складвалася ўражанне, што яны ўбачылі самога д'ябла. Вельмі дзіўна, але медыцынскія эксперты, якія абследавалі памерлых, не змаглі вызначыць прычыну смерці ні ў адным з 52 выпадкаў.

Гарадскія ўлады даўно хацелі знішчыць праклятае дрэва, але не могуць за вялікую плату знайсці жадаючых нават наблізіцца да яго. Пра гэты неверагодны выпадак расказала нядаўна газета «Weekly word news».

### Анекдот

*У спальным вагоне адной даме ўсю ноч не даваў спакою храп у суседнім купэ. Некалькі разоў яна стукала ў сценку: дарма!*

*Раніцай дама заглядвае ў суседняе купэ і кажа пасажыру:*

*— Вы што, не чулі, як я стукала ў сценку?*

*— Чуў, мадам, але, прабачце мне, не змог зайсці — надта стаміўся ўдзень.*







### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па ўсёй рэспубліцы прыкладна аднолькавае надвор'е: тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Гродне 16—18, Гомелі, Брэсце, Магілёве 17—19 градусаў цяпла. Неба воблачнае, з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы.

У наступныя двое сутак — без перамен: воблачна, невялікія дажджы. Уначы будзе 6—11, удзень 14—19 вышэй нуля.

**Медыцынскі прагноз на 18—19 ліпеня**

У бліжэйшыя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. 18 ліпеня — неспрыяльны дзень у фізічным плане. У такіх пагодных умовах захоўваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування метэазалежных хворых на гіпертанію, стэнакардыю, бранхіяльную астму.

У мэтах метэапрагноза па-ранейшаму рэкамендуецца ашчадны рэжым, прыём заспакаяльных і сасудапашыраючых прэпаратаў.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*Віншуем **Ганну Іванаўну ГРОМАК** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў жыцці.*

***Работнікі бухгалтэрыі калгаса імя Чкалава.***

*Дарагіх мне людзей сардэчна віншую з днём нараджэння: **ПРАКАПОВІЧАЎ Сяргея Леанідавіча і Тамару Дзмітрыеўну з Мінска, ПРАКАПОВІЧ Валянціну Паўлаўну са Слуцка.** Жадаю здароўя, шчасця, любові і радасці ўсім.*

***Серада В. Ф.***

**Віншуем выпускнікоў 1966 г.** Працавіцкай СШ Слуцкага раёна з нагоды 30-годдзя.

***Пекар У. М., Пекар Ф. З., Прыма І. М.***



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 3578.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12